Міністэрства адукацыі
Рэспублікі Беларусь

# Беларуская мова і літаратура

# 8-9 *класы*

## Прыкладнае каляндарна-тэматычнае планаванне

**2012/2013**
*навучальны год*

Міністэрства адукацыі
Рэспублікі Беларусь

# Беларуская мова і літаратура

# 8-9 *класы*

## Прыкладнае каляндарна-тэматычнае планаванне

Дапаможнік для настаўнікаў
устаноў агульнай сярэдняй адукацыі

*Рэкамендавана*
*Навукова-метадычнай установай*
*«Нацыянальны інстытут адукацыі»*
*Міністэрства адукацыі*
*Рэспублікі Беларусь*

Мінск
Нацыянальны інстытут адукацыі
«АВЕРСЭВ»
2012

УДК 373.5.016:811.161.3+821.161.3.09
ББК 74.268.0(4Беи)
Б43

*Серыя заснавана ў 2006 годзе*

**Аўтары:**
І. М. Саматыя, С. А. Язерская, С. С. Міхнёнак,
П. І. Лявонава, І. М. Слесарава, В. В. Кушнярэвіч

Б43 **Беларуская** мова і літаратура. 8—9 кл. : прыкладнае каляндарна-тэматычнае планаванне : дапам. для настаўнікаў устаноў агул. сярэд. адукацыі / І. М. Саматыя [і інш.].— Мінск: НІА : Аверсэў, 2012. — 96 с. — (Бібліятэка настаўніка).
ISBN 978-985-559-104-8 (НІА)
ISBN 978-985-19-0156-8 (АВЕРСЭВ)

**УДК 373.5.016:811.161.3+821.161.3.09**
**ББК 74.268.0(4Беи)**

*Вучэбнае выданне*
БІБЛІЯТЭКА НАСТАЎНІКА
**Саматыя** Ірына Мікалаеўна
**Язерская** Святлана Анатольеўна
**Міхнёнак** Святлана Сямёнаўна і інш.

**БЕЛАРУСКАЯ МОВА І ЛІТАРАТУРА**
**8—9 класы**
**Прыкладнае каляндарна-тэматычнае планаванне**

Дапаможнік для настаўнікаў устаноў агульнай сярэдняй адукацыі
Адказны за выпуск *Д. Л. Дзямбоўскі*

Падпісана ў друк 17.05.2012. Фармат 60×84 1/16. Папера друкарская.
Друк афсетны. Ум.друк.арк. 5,58. Ул.-выд. арк. 4,12. Тыраж 3100 экз. Заказ 3987.

Навукова-метадычная ўстанова «Нацыянальны інстытут адукацыі»
Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь.
ЛИ № 02330/0494469 ад 08.04.2009.
Вул. Караля, 16, 220004, Мінск.

Таварыства з дадатковай адказнасцю «Аверсэв».
ЛИ № 02330/0003944 ад 03.02.2009. Вул. М. Олешава, 1, офіс 309, 220090, Мінск.
**E-mail: info@aversev.by; www.aversev.by**
Кантактныя тэлефоны: (017) 268-09-79, 268-08-78.
Для пісьмаў: а/с 3, 220090, Мінск.

УПП «Віцебская абласная друкарня».
ЛП № 02330/0494165 ад 03.04.2009.
Вул. Шчарбакова-Набярэжная, 4, 210015, Віцебск.

**ISBN 978-985-559-104-8 (НІА)**
**ISBN 978-985-19-0156-8 (АВЕРСЭВ)**

# Прадмова

Прыкладнае каляндарна-тэматычнае планаванне распрацавана ў адпаведнасці з праграмамі па беларускай мове і праграмамі па беларускай літаратуры для 8-х і 9-х класаў, зацверджанымі Міністэрствам адукацыі Рэспублікі Беларусь у 2012 годзе. У ім рэалізуюцца патрабаванні адукацыйнага стандарту па прадмеце, вызначаецца паслядоўнасць урокаў, у тым ліку ўрокаў развіцця маўлення і пазакласнага чытання.

У аснову планавання ўрокаў беларускай мовы пакладзены сістэмна-функцыянальны, камунікатыўна-дзейнасны і лінгвакультуралагічны падыходы, а таксама прынцып сістэматычнага паўтарэння і паглыблення ведаў вучняў, што прадугледжвае зварот да пройдзенага ў папярэдніх класах.

Планаванне па беларускай літаратуры прапануе размеркаванне вучэбнага матэрыялу ў адпаведнасці са зместам і структурай вучэбнага дапаможніка, адмяшчае тэмы ўрокаў і колькасць гадзін на вывучэнне твораў, рэкамендуе адпаведны вучэбны матэрыял да кожнага ўрока і дамашнія заданні.

Выданне мае на мэце дапамагчы настаўніку ў наладжванні вучэбнага працэсу, але не павінна стрымліваць яго ініцыятыву і творчы падыход да выкладання прадмета. Настаўнік можа размеркаваць вучэбны матэрыял па-іншаму, з улікам асаблівасцей кожнага класа.

Прыкладнае каляндарна-тэматычнае планаванне падрыхтавалі:
Беларуская мова. 8-ы клас — І. М. Саматыя, С. А. Язерская;
Беларуская мова. 9-ы клас — С. С. Міхнёнак;
Беларуская літаратура. 8-ы клас — П. І. Лявонава, І. М. Слесарава;
Беларуская літаратура. 9-ы клас — В. В. Кушнярэвіч.

## Беларуская мова

8 клас

(70 гадзін на год, 2 гадзіны на тыдзень, з іх 14 гадзін — на пісьмовыя работы)

*Бадзевіч, З. І.* Беларуская мова : вучэб. дапам. для 8-га кл. агульнаадукац. устаноў з беларус. і рус. мовамі навучання / З. І. Бадзевіч, І. М. Саматыя. — Мінск : Нац. ін-т адукацыі, 2009.

| № урока і дата правядзення | Тэма раздзела, урока | Мэты і задачы ўрока | Матэрыял вучэбнага дапаможніка, дамашняе заданне |
|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 |
| | | **І чвэрць** (16 урокаў) | |
| 1 | Роля беларускай мовы ў развіцці нацыянальнай культуры | Дапамагчы вучням усвядоміць ролю беларускай мовы ў развіцці нацыянальнай культуры. Папаўняць лексічны і фразеалагічны склад мовы вучняў, удасканальваць іх маўленне. Пазнаёміць са структурай і зместам вучэбнага дапаможніка, выпрацоўваць уменне арыентавацца ў вучэбнай кнізе, выхоўваць беражлівыя адносіны да яе | § 1, практ. 1—5, вусныя выказванні вучняў па састаўленым плане на тэму ўрока; праца з вучэбным дапаможнікам (аўтары, «Змест», умоўныя абазначэнні, дадаткі); афармленне сшыткаў<br>**Д/з:** § 1, практ. 6 |
| | | **Паўтарэнне вывучанага ў 5—7 класах** (2 гадзіны) | |
| 2 | Тэкст як сэнсава-граматычнае адзінства. Стылі і тыпы маўлення (паглыбленне) | Спрыяць узнаўленню і паглыбленню паняцця пра тэкст і яго лінгвістычныя асаблівасці на ўзроўнях зместу (тэматычнае адзінства), функцыі (стылістычнае адзінства) і формы (структурнае адзінства).<br>Выпрацоўваць уменні ўспрымаць тэкст як цэласнае выказванне, аб'яднанае тэмай, сэнсам і граматычна; суад- | § 2, 3, практ. 7—12<br>**Д/з:** § 2, 3, практ. 13 |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| | | носіць кожнае выказванне з тыповай маўленчай сітуацыяй, вызначаць стыль, тып і жанр разнастайных тэкстаў; выяўляць сэнсава-стылістычную і тэкстаўтваральную ролю займеннікаў і часціц у тэксце; самастойна складаць невялікія тэксты пэўнага стылю, тыпу і жанру | |
| 3 | Самастойныя і службовыя часціны мовы. Правапіс ***не*** (***ня***), ***ні*** з рознымі часцінамі мовы | Садзейнічаць узнаўленню ў памяці вучняў і актуалізацыі важнейшых палажэнняў марфалогіі, прынцыпаў падзелу слоў на часціны мовы і іх групы; паўтарыць усе часціны мовы і асноўныя правілы іх правапісу, звяртаючы асаблівую ўвагу на марфалагічныя амонімы; абазначыць сэнсава-граматычную і тэкстаўтваральную ролю самастойных і службовых часцін мовы; паўтарыць правілы вымаўлення і правапісу ***не*** (***ня***), ***ні*** з рознымі часцінамі мовы.<br>Удасканальваць уменні пазнаваць і групаваць словы і іх формы як часціны мовы ў сказах і тэкстах; вызначаць сэнсава-стылістычную і тэкстаўтваральную ролю часцін мовы; правільна вымаўляць і пісаць ***не*** (***ня***), ***ні*** з рознымі часцінамі мовы; развіваць навуковы стыль маўлення вучняў | § 4, 5, практ. 14—16, 18—22<br>**Д/з:** § 4, 5, практ. 23 |
| | | **Сінтаксіс і пунктуацыя**<br>(1 гадзіна) | |
| 4 | Сінтаксіс і пунктуацыя як самастойныя раздзелы навукі аб мове. Сувязь пунктуацыі з сінтаксісам | Садзейнічаць фарміраванню ў вучняў сістэмы сінтаксічных паняццяў ва ўзаемасувязі з паняццямі іншых узроўняў мовы і выпрацоўцы правільнага ўжывання разнастайных сінтаксічных канструкцый ва ўласным маўленні. Актуалізаваць веды вучняў пра асноўныя тыпы сказаў і словазлучэнняў, вядомыя з 5— | Тэарэтычны матэрыял на с. 24, практ. 24, дадатковы дыдактычны матэрыял |

*Працяг*

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| | | 7 класаў, а таксама асноўныя пунктуацыйныя правілы. Удасканальваць уменні знаходзіць сінтаксічныя адзінкі, выяўляць агульныя і прыватныя прыметы і ўласцівасці, абапіраючыся на якія можна даць поўную характарыстыку словазлучэнням і сказам. Вучыць адрозніваць тры віды сувязі: 1) прэдыкатыўная сувязь (паміж дзейнікам і выказнікам); 2) злучальная сувязь (аднародныя члены сказа); 3) падпарадкавальная сувязь. Фарміраваць трывалыя пунктуацыйныя навыкі | **Д/з:** вуснае паведамленне «Пунктуацыя — неабходны сродак пісьмовага маўлення» |
| **Словазлучэнне: будова, значэнне, ужыванне** (5 гадзін, з іх 1 гадзіна — на пісьмовую работу) | | | |
| 5 | Словазлучэнне як сінтаксічная адзінка. Граматычнае значэнне словазлучэння | Дапамагчы вучням асэнсаваць ролю словазлучэння ў сказе як намінатыўнага сродку, які развівае і ўдакладняе значэнне галоўнага слова ў пэўнай сітуацыі маўлення, паглыбіць веды пра будову і граматычнае значэнне словазлучэнняў. Садзейнічаць асэнсаванню вучнямі законаў спалучальнасці і сувязі слоў, успрыманню сэнсу і будовы сінтаксічных адзінак, утвораных знамянальнымі словамі на аснове разумення лексічнага значэння кампанентаў і іх граматычных прымет і сувязей. Размежаваць тэрміны *словазлучэнне* і *спалучэнне слоў* (практ. 30).<br>Выпрацоўваць уменні вылучаць словазлучэнні ў сказе, вызначаць іх ролю ў тэксце, вызначаць галоўнае і залежнае словы, выяўляць сэнсавую і граматычную ролю гэтых слоў, устанаўліваць граматычнае значэнне і тып сінтаксічных адносін словазлучэння; утвараць разнастайныя словазлучэнні і ўводзіць іх у сказы; вызначаць, якімі членамі сказа становяцца залежныя словы словазлучэння. | § 6, 8, практ. 25—28, 40—50<br>**Д/з:** § 6, 8, практ. 51 |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| | | Фарміраваць навыкі камунікатыўна мэтазгоднага і стылістычна абумоўленага выкарыстання словазлучэнняў ва ўласным маўленні; садзейнічаць выхаванню маўленчай культуры вучняў | |
| 6 | Віды сінтаксічнай сувязі слоў у словазлучэнні: дапасаванне, кіраванне, прымыканне. Асаблівасці дапасавання і кіравання ў беларускай мове (у параўнанні з рускай) | Дапамагчы вучням набыць элементарнае ўяўленне пра законы, якімі абумоўлена здольнасць слова развівацца і ўдакладняцца іншымі словамі (такая здольнасць залежыць ад лексічнага значэння слова і яго граматычнай прыналежнасці); пазнаёміць з відамі граматычнай сувязі слоў, устанавіць узаемазалежнасць паміж граматычным значэннем і спосабам падпарадкавальнай сувязі слоў у словазлучэнні. Садзейнічаць асэнсаванню таго, што ў беларускай мове форма некаторых залежных слоў замацавана традыцыяй словаўжывання і граматычнай сістэмай мовы (напрыклад, *паліць у печы*, *паслаць па дапамогу*, *жыць пры бацьку* і інш.).<br>Выпрацоўваць уменні вызначаць субардынацыю кампанентаў у структуры словазлучэння, даваць ім марфалагічную характарыстыку, бачыць сувязі паміж словамі, якія дыстантна аддалены адно ад другога; вызначаць від падпарадкавальнай сувязі паміж кампанентамі і правільна афармляць ва ўласным маўленні. Паўтарыць правапіс канчаткаў назоўнікаў у формах ускосных склонаў; папярэдзіць памылкі ў кваліфікацыі і ўжыванні невытворных і вытворных прыназоўнікаў | § 7, практ. 29—38<br>**Д/з:** § 7, практ. 39 |
| 7 | Непадзельныя словазлучэнні | Пазнаёміць вучняў з ужываннем у мове свабодных і непадзельных словазлучэнняў, якія выступаюць у ролі аднаго члена сказа. Засяродзіць увагу на фразеалагічных словазлучэннях, у якіх лексічная самастойнасць кампанентаў аслаблена і не можа суадносіцца з рэальнасцю ў тым значэнні, з якім яно функцыянуе ў спалучэнні слоў. | § 9, практ. 53, 54, знаёмства з парадкам і правіламі поўнага сінтаксічнага разбору словазлучэння (с. 51—52), практ. 64 |

*Працяг*

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| | | Дапамагчы вучням пазнаёміцца з парадкам і правіламі поўнага сінтаксічнага разбору словазлучэння; навучыць адрозніваць сінанімічныя словазлучэнні.<br>Удасканальваць уменні аналізаваць словазлучэнні: вылучаць са структуры сказа, вызначаць субардынацыю кампанентаў, даваць ім марфалагічную характарыстыку, вызначаць від падпарадкавальнай сувязі і граматычнае значэнне | **Д/з:** падабраць тэкст (7–8 сказаў) з непадзельнымі словазлучэннямі, падкрэсліць непадзельныя словазлучэнні як члены сказа |
| 8 | Паглыбленне вывучанага пра навуковы і афіцыйны стылі маўлення | Садзейнічаць падагульненню і паглыбленню ведаў вучняў пра асаблівасці навуковага і афіцыйнага стыляў маўлення ў адносінах да сферы іх выкарыстання, задач маўлення, стылёвых рыс, моўных сродкаў і асноўных жанраў (з увагай да ўжывання непадзельных словазлучэнняў у тэкстах названых стыляў) | § 10, 11, практ. 56, 57, 59–62<br>**Д/з:** § 10, 11, практ. 63 |
| 9 | Пераказ тэксту навуковага стылю з выкарыстаннем апорных словазлучэнняў | Удасканальваць уменне вусна і пісьмова пераказваць тэкст навуковага стылю з апорай на вылучаныя ключавыя словазлучэнні, захоўваючы лагічнасць, паслядоўнасць, доказнасць прапанаванага тэксту, паўнату інфармацыі, што перадаецца з неабходным выкарыстаннем абстрактнай лексікі, у тым ліку тэрміналагічнага характару | Практ. 55 |
| | | **ПРОСТЫ СКАЗ**<br>**Двухсастаўныя сказы: будова, значэнне, ужыванне**<br>(20 гадзін, з іх 3 гадзіны – на пісьмовыя работы) | |
| 10 | Сказ як асноўная камунікатыўная адзінка. Тыпы сказаў па- | Дапамагчы вучням узнавіць і актуалізаваць звесткі пра будову, значэнне і ролю сказа ў маўленні, тыпы сказаў паводле мэты выказвання. | § 12, практ. 65–72<br>**Д/з:** § 12, практ. 73, 74 |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| | водле мэты выказвання і інтанацыйнага афармлення: апавядальныя, пытальныя, пабуджальныя; клічныя і няклічныя сказы (паўтарэнне). Простыя і складаныя сказы. Развітыя і неразвітыя сказы | Выпрацоўваць уменні вызначаць тып сказа па мэце і адносінах да зместу выказвання; аналізаваць сэнсавую структуру сказа, яго камунікатыўную установку, перадаваць мэтавую установку пры чытанні і маўленні, удасканальваць навыкі сінтаксічнага разбору простага сказа | |
| 11 | Парадак слоў у сказе. Лагічны націск. Інтанаванне сказаў | Дапамагчы засвоіць нормы размяшчэння слоў у сказе, паказаць, што галоўнымі сродкамі выражэння мэты выказвання служаць парадак слоў, інтанацыя і лагічны націск. Удасканальваць уменні правільна інтанаваць апавядальныя, пытальныя і пабуджальныя сказы; выконваць сінтаксічны разбор простага сказа, вызначаць тып сказа па мэце і адносінах да зместу выказвання; аналізаваць сэнсавую структуру сказа, яго камунікатыўную накіраванасць, перадаваць мэтавую установку пры чытанні і маўленні | § 13, 14, практ. 75—77, 80—85<br>**Д/з:** § 13, 14, практ. 86 |
| 12 | **Кантрольны дыктант з дадатковымі заданнямі** | Выявіць узровень засваення вывучаных тэм і сфарміраванасць адпаведных аналітыка-сінтэтычных моўных і маўленчых уменняў і навыкаў.<br>Удасканальваць арфаграфічныя і пунктуацыйныя навыкі вучняў; вучыць кантраляваць самі сябе, пры неабходнасці звяртацца да даведачных матэрыялаў | |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| 13 | Двухсастаўныя сказы. Дзейнік і выказнік, сэнсава-граматычныя адносіны паміж імі | Дапамагчы вучням набыць першапачатковае ўяўленне аб парадыгме простых сказаў, іх будове і значэнні; паказаць на прыкладах, што ў сказе можа паведамляцца пра дзеянне асобы або прадмета, стан чалавека або прыроды, прыметы і якасці прадмета маўлення, а таксама даецца кваліфікацыя, характарыстыка прадмета маўлення, называецца дзеянне і яго прымета; асэнсаваць, што сказ можа фарміравацца як на аснове ўзаемадзеяння двух галоўных членаў, так і на аснове аднаго, які набывае пры такіх умовах форму дзейніка або выказніка; пазнаёміць са сказамі, будова якіх адпавядае будове граматычнай асновы і ў якіх можна выявіць толькі прэдыкатыўныя адносіны, — неразвітымі сказамі. Садзейнічаць асэнсаванню граматычнага значэння (прадмет і яго прымета), якое перадаецца ў сказе граматычнай асновай — дзейнікам і выказнікам; вызначыць, якімі моўнымі сродкамі можа выражацца граматычнае значэнне, якія фактары ўплываюць на яго фарміраванне. Паказаць сінтаксічную прыроду галоўных членаў сказа: асобна ўзятае слова ці яго форма паза сувязямі з іншымі словамі нельга разглядаць як член сказа.<br>Выпрацоўваць уменні выяўляць двухсастаўныя сказы ў тэксце, аналізаваць іх будову; ужываць ва ўласным маўленні з пэўнай камунікатыўнай мэтай | § 15, практ. 87—91, 93<br>**Д/з:** § 15, практ. 92 |
| 14 | Спосабы выражэння дзейніка | Пазнаёміць вучняў з найбольш распаўсюджанымі спосабамі выражэння дзейніка, у тым ліку фразеалагізмамі і сінтаксічна непадзельнымі словазлучэннямі ў ролі галоўнага члена сказа.<br>Удасканальваць уменні на аснове глыбокага асэнсавання зместу знаходзіць граматычную аснову, вызначаць сэнсава-граматычныя адносіны паміж галоўнымі членамі, | § 16, практ. 94, навучальны дыктант<br>**Д/з:** § 16, практ. 95 |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| | | характарызаваць марфалагічныя сродкі выражэння дзейніка | |
| 15<br>16 | Спосабы выражэння выказніка: простага дзеяслоўнага, састаўнога дзеяслоўнага і састаўнога іменнага (знаёмства) | Садзейнічаць фарміраванню ў вучняў паняцця пра лексічнае і граматычнае значэнні выказніка і на аснове адрознення спосабаў выражэння гэтых значэнняў рыхтаваць да ўспрымання класіфікацыі тыпаў сказаў. Прасачыць, у якім ладзе і часе выкарыстоўваецца большасць сказаў у апавядальных тэкстах, тэкстах-апісаннях.<br>Выпрацоўваць уменні характарызаваць найбольш пашыраныя спосабы выражэння выказніка, вызначаць у сказах простыя дзеяслоўныя, састаўныя дзеяслоўныя і састаўныя іменныя выказнікі; правільна дапасоўваць выказнік да дзейніка ў вусным і пісьмовым маўленні. Карыстацца рознымі спосабамі выражэння выказніка як сродкам арганізацыі і ўзмацнення выразнасці тэксту | § 17–19, практ. 96–99, 100–108 |
| | | **II чвэрць**<br>(16 урокаў) | |
| 17 | Сувязь выказніка і дзейніка, выражанага колькасна-іменным спалучэннем. Працяжнік паміж дзейнікам і выказнікам | Пашырыць уяўленні пра спосабы выражэння выказніка; пазнаёміць з правіламі далучэння выказніка да дзейніка, працягваць працу над правіламі пастаноўкі працяжніка паміж дзейнікам і выказнікам. Засяродзіць увагу на сферы выкарыстання гэтых сінтаксічных сродкаў у маўленні ў сувязі з дыферэнцыяцыяй іх значэнняў і выяўленчых магчымасцей. Спыніць увагу на тым, што суаднесенасць сказаў па значэнні і форме з'яўляецца вельмі важным граматычным сродкам сувязі сказаў у тэксце.<br>Выпрацоўваць уменні ставіць пры неабходнасці працяжнік паміж дзейнікам і выказнікам | § 20, 21, практ. 109–115<br>**Д/з:** § 20, 21, практ. 116 або 117 |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| 18 | Пераказ зместу кінафільмаў, урыўкаў з мастацкіх твораў, радыё- і тэлеперадач з выкарыстаннем двухсастаўных сказаў | Выпрацоўваць уменне ўспрымаць змест самастойна прагледжанага кінафільма, тэлеперадачы (праслуханай радыёперадачы), прачытанага мастацкага твора, вызначаць тэму і асноўную думку; выконваць пераказ з мэтанакіраваным ужываннем двухсастаўных сказаў як сродкаў арганізацыі і выразнасці тэксту | Папярэдні самастойны прагляд кінафільма ці тэлеперадачы (праслухоўванне радыёперадачы), вызначэнне тэмы і асноўнай думкі; суразмоўніцтва з вучнямі на змесце ўспрынятых імі твораў, абмеркаванне і састаўленне планаў пераказаў, пабудова ўступнай і заключнай частак; абгрунтаванне дарэчнасці ўжывання неразвітых двухсастаўных сказаў, вызначэнне ролі і месца ўласных разважанняў адносна зместу твораў і ацэнкі формы іх падачы; напісанне пераказаў; іх сама- і ўзаемаацэнка пасля праверкі; удасканаленне напісанага |
| 19 | Даданыя члены сказа: азначэнне, дапаўненне, акалічнасць, іх граматычнае значэнне, роля ў сказе | Актуалізаваць звесткі пра граматычнае значэнне і асноўныя спосабы выражэння ўсіх даданых членаў сказа; дапамагчы вучням асэнсаваць прызначэнне даданых членаў — забяспечыць паўнату і глыбіню думкі, якая выражаецца ў сказе, асэнсаваць адносіны, для выражэння якіх служаць даданыя члены сказа. Паказаць, што большасць даданых членаў уваходзіць у сказ праз словазлучэнне, паясняючы галоўныя ў граматычных і сэнсавых адносінах словы. | Практ. 118, дадатковы дыдактычны матэрыял<br>**Д/з:** самастойна падабраць тэкст (5—6 сказаў), выканаць графічны разбор па членах сказа двух сказаў (на выбар) |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| | | Разгледзець выпадкі ўжывання развітых даданых членаў сказа: *Сустрэча пройдзе каля будынка Дзяржаўнага цырка.* Выпрацоўваць уменні вызначаць даданыя члены сказа з улікам структурных і семантычных характарыстык: а) марфалагічнага выражэння кампанентаў, якія ўступаюць у сувязь, спосабу сувязі, пазіцыі; б) лексічных і граматычных адносін паміж кампанентамі, сэнсавай нагрузкі і здольнасці ўтвараць адну сінтагму. Выкарыстоўваць сэнсавыя (сінтаксічныя) пытанні пры вызначэнні характару адносін паміж галоўным і залежным кампанентамі ў структуры сказа | |
| 20<br>21 | Азначэнне, яго граматычнае значэнне, роля ў сказе. Дапасаваныя і недапасаваныя азначэнні, спосабы іх выражэння | Садзейнічаць сістэматызацыі вывучанага пра азначэнне ў папярэдніх класах, фарміраваць паняцце аб граматычным значэнні азначэння (значэнне прыметы), пазнаёміць з прыватнымі значэннямі дапасаваных і недапасаваных азначэнняў і спосабамі іх выражэння. Дапамагчы асэнсаваць, што ролю азначэння выконвае залежная форма слова, якая можа паясняць дзейнік або іншы член у сказе, выражаны назоўнікам (дапаўненне, акалічнасць), што азначэнні могуць адносіцца як да аднаго слова, так і да словазлучэння: *Шэра-зялёны вячэрні спакой.*<br>Выпрацоўваць уменні бачыць азначэнні ў сказе, пісьмова выдзяляць іх адпаведнымі ўмоўнымі абазначэннямі; вызначаць члены сказа, да якіх азначэнні адносяцца, называць від падпарадкавальнай сувязі, сродкі выражэння, сэнсава-стылістычную ролю ў тэксце (спыніць увагу вучняў на тым, што недапасаваныя азначэнні больш дакладныя, адназначныя, паколькі ў іх ролі выкарыстоўваюцца разнастайныя формы назоўнікаў з рознымі прыназоўнікамі, | § 22, практ. 119, 121, 122, дадатковы дыдактычны матэрыял<br>**Д/з:** § 22, практ. 120, 123 |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| | | інфінітыў, прыслоўі, здольныя перадаць любыя сэнсавыя адценні, у выніку чаго інфармацыя тэксту больш поўная і канкрэтная). Вучыць вылучаць развітае азначэнне, выражанае дзеепрыметнікавым зваротам, удасканальваць адпаведныя пунктуацыйныя навыкі; навучыць адрозніваць недапасаванае азначэнне ад прыйменнага дапаўнення, пазнаёміць з адпаведнымі прыёмамі (напрыклад, замена дапасаваным азначэннем: *домік для пчол — пчаліны домік*; *нос з гарбінкай* — замена немагчыма, у такім выпадку прымяняем пастаноўку недапасаванага азначэння ў пазіцыю выказніка: *Нос быў з гарбінкай*). Адрозніваць мнагазначныя члены сказа: *поезд з Гомеля* (які? адкуль?), *піражкі з бульбай* (якія? з чым?), *экскурсія па Белавежы* (якая? па чым? дзе?). Паўтарыць правапіс з вялікай літары прыналежных і адносных прыметнікаў | |
| 22 | Прыдатак як разнавіднасць азначэння | Садзейнічаць фарміраванню ў вучняў паняцця аб прыдатку як сінтаксічнай катэгорыі, разнавіднасці дапасаванага ў склоне азначэння, якое дае прадмету іншую назву. Дапамагчы зразумець, што, паколькі прыдатку ўласціва значэнне прыметы і прадметнае значэнне, ён выконвае ў тэксце асаблівую, нятоесную азначальнаму слову функцыянальна-сінтаксічную ролю. Паказаць, што прыдатак — выразны і лагічны сродак вобразнай характарыстыкі прадмета ў мастацкіх апісаннях, сродак дзелавой характарыстыкі асобы, які можа ўказваць на сацыяльнае паходжанне людзей, узрост, род заняткаў, нацыянальнасць, ступень сваяцтва, прыналежнасць да грамадскіх арганізацый, сродак дакладнай назвы газет, | § 23, практ. 124–127<br>**Д/з:** § 23, практ. 128 |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| | | часопісаў, кніг, прадпрыемстваў, устаноў у афіцыйным маўленні. Пазнаёміць вучняў з некаторымі спосабамі вызначэння прыдатка. Спыніць увагу на тым, што прыдаткі могуць мець пры сабе паясняльныя словы і быць развітымі. Дапамагчы засвоіць асаблівасці дапасавання дзеясловаў-выказнікаў у форме прошлага часу да прыдаткаў, выражаных уласным назоўнікам.<br>Выпрацоўваць уменні распазнаваць прыдаткі ў сказах, вызначаць іх сэнсава-стылістычную ролю ў тэкстах розных стыляў; карыстацца правілам пастаноўкі дэфіса пры прыдатку; ужываць прыдаткі ва ўласным вусным і пісьмовым маўленні; узбагачаць граматычны лад мовы вучняў | |
| 23 | Дапаўненне, граматычнае значэнне, роля ў сказе, спосабы яго выражэння | Спрыяць засваенню азначэння дапаўнення і яго агульнага граматычнага значэння (значэнне прадмета); падрабязна пазнаёміць вучняў з усімі выпадкамі і спосабамі выражэння прамых і ўскосных дапаўненняў. Паказаць на прыкладах, што дапаўненне можа не толькі адносіцца да дзеяслова-выказніка, а і паясняць іншыя члены сказа, выражаныя назоўнікам, прыметнікам. Садзейнічаць асэнсаванню вучнямі камунікатыўнай мэтазгоднасці выкарыстання сінтаксічных сродкаў мовы ў залежнасці ад задач і зместу выказвання.<br>Выпрацоўваць уменні даваць азначэнне дапаўнення; дакладна адрозніваць дзеяча і аб'ект, на які накіравана дзеянне; у адносінах да агульнага граматычнага значэння бачыць вузкія, прыватныя значэнні дапаўненняў, вызначаць дапаўненні, выражаныя не толькі назоўнікамі, а і іншымі часцінамі мовы: займеннікамі, колькаснымі лічэбнікамі, інфінітывамі, субстантываванымі словамі; асэнсавана выкарыстоўваць дапаўненні ва ўласным маўленні; развіваць лагічнае мысленне вучняў | § 24, практ. 129—132<br>**Д/з:** § 24, практ. 133 |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| 24<br>25 | Акалічнасць, граматычнае значэнне, роля ў сказе, спосабы выражэння | Дапамагчы вучням пазнаёміцца з граматычнымі значэннямі акалічнасці, вылучаючы агульныя ўласцівасці акалічнасцей, засвоіць іх сістэму і спосабы выражэння. Спрыяць разуменню таго, што ўсякае дзеянне абумоўлена нейкай прычынай, мэтай, адбываецца ў пэўны час, мае пэўны вынік, а значыць, акалічнасныя значэнні прычыны, мэты, часу, месца, спосабу дзеяння і інш. заўсёды суправаджаюць пэўнае дзеянне або стан. Паказаць адрозненне акалічнасці і дапаўнення, выражаных назоўнікам ва ўскосным склоне (з прыназоўнікам ці без яго): дапаўненне абазначае прадмет, з якім звязана дзеянне, акалічнасць — як і пры якіх абставінах дзеянне адбываецца.<br>Выпрацоўваць уменні вызначаць у сказе акалічнасці і іх прыватныя значэнні, ставіць сінтаксічнае (лагічнае) пытанне, знаходзячы словы, з якімі гэтыя акалічнасці звязаны, даваць ім сінтаксічную і марфалагічную характарыстыку. Вучыць аналізаваць і такія выпадкі, калі акалічнасць далучаецца да граматычнай асновы або да ўсяго сказа. Прыняць да ўвагі, што разгорнутыя акалічнасці, якія выражаны дзеепрыслоўнымі зваротамі і абазначаюць дадатковае дзеянне, звязаны не толькі з дзеясловам-выказнікам, але і з дзейнікам, пры якім яны выконваюць функцыю дадатковага паведамлення. Спыніць увагу на тым, што ў залежнасці ад камунікатыўнай мэты выказвання акалічнасці могуць мяняць месца размяшчэння ў сказе. Вучыць выяўляць ролю акалічнасцей у тэкстах розных стыляў, выкарыстоўваць разнастайныя акалічнасці ва ўласным вусным і пісьмовым маўленні | § 25, практ. 134—137, 139, 141, дадатковы дыдактычны матэрыял<br>**Д/з:** § 25, практ. 138, 140 |
| 26 | Паглыбленне паняцця пра паслядоўную і паралельную су- | Садзейнічаць паглыбленню паняцця вучняў пра паслядоўную і паралельную сувязь сказаў у тэксце, сродкі сувязі частак і сказаў, удасканальваць уменні складаць | § 26, практ. 142—145<br>**Д/з:** падабраць тэкст (7—8 сказаў), вызначыць стыль |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| | вязь сказаў у тэксце | двухсастаўныя сказы на тэмы, звязаныя з працай людзей розных прафесій, пісаць тэксты на аснове складзеных сказаў | і тып, даць характарыстыку сродкам, што забяспечваюць сувязь сказаў у тэксце |
| 27<br>28 | **Кантрольны падрабязны пераказ тэксту** | Выявіць узровень умення вучняў падрабязна пераказваць мастацкія тэксты.<br>Удасканальваць навыкі, неабходныя вучням для падрыхтоўкі і напісання пераказу на аснове тэксту, прачытанага настаўнікам; уменне вучняў вызначаць асноўную думку тэксту, складаць план, захоўваць кампазіцыю тэксту пры яго пераказе, дакладна і поўна перадаваць фактычны матэрыял, творча выкарыстоўваць моўна-выяўленчыя сродкі, уласцівыя для тэксту пэўнага стылю, ужываць у пісьмовым маўленні неабходныя сінтаксічныя канструкцыі, ажыццяўляць самакантроль за правільным арфаграфічным, граматычным і пунктуацыйным афармленнем, рэдагаваць і дапрацоўваць першасны варыянт пераказу тэксту пасля аналізу, якасна афармляць канчатковы варыянт пераказу | |
| 29 | Падагульненне і сістэматызацыя вывучанага | Садзейнічаць падагульненню і сістэматызацыі ведаў вучняў па раздзеле «Двухсастаўныя сказы», удасканальваць навыкі сінтаксічнага разбору простага двухсастаўнага сказа (с. 265–266), развіваць вуснае і пісьмовае маўленне вучняў | Кантрольныя пытанні і заданні пад рубрыкай «Праверце сябе», дадатковы дыдактычны матэрыял |
| **Аднасастаўныя сказы: будова, значэнне, ужыванне**<br>(10 гадзін, з іх 2 гадзіны – на пісьмовыя работы) | | | |
| 30<br>31 | Аднасастаўныя сказы, іх віды. Пэўна-асабовыя сказы: будова, значэнне, ужыванне | Дапамагчы вучням зразумець асаблівасці сэнсавых значэнняў і будовы аднасастаўных сказаў у супастаўленні з двухсастаўнымі. Пашырыць уяўленні вучняў пра сінанімічныя магчымасці беларускай мовы; даць паняцце | § 27, 28, практ. 147–155<br>Д/з: § 27, 28, практ. 156 |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| | | пра *пэўна-асабовыя сказы*; паказаць ролю такіх сказаў у тэксце. Навучыць адрозніваць двухсастаўныя і аднасастаўныя сказы, фарміраваць уменні размяжоўваць тыпы аднасастаўных сказаў па сэнсавых і граматычных прыметах, вызначаць пэўна-асабовыя сказы.<br>Удасканальваць навык пастаноўкі коскі ў складаным сказе, калі ў яго ўваходзяць часткі з адным галоўным членам; вучыць карыстацца аднасастаўнымі сказамі ва ўласным вусным і пісьмовым маўленні. Паўтарыць правапіс канчаткаў асабовых дзеясловаў | |
| 32 | Няпэўна-асабовыя сказы: будова, значэнне, ужыванне | Садзейнічаць асэнсаванню вучнямі паняцця *няпэўна-асабовыя сказы*. Паказаць прызначэнне і сэнсава-стылістычныя магчымасці такіх сказаў у маўленні.<br>Выпрацоўваць уменні выяўляць няпэўна-асабовыя сказы ў тэкстах, даваць ім характарыстыку, вызначаць сэнсава-стылістычную ролю, ужываць з пэўнымі камунікатыўнымі мэтамі ва ўласным маўленні. Паўтарыць пастаноўку знакаў прыпынку ў складаным сказе | § 29, практ. 157—160 |
| **III чвэрць** (22 урокі) | | | |
| 33 | Абагульнена-асабовыя сказы: будова, значэнне, ужыванне | Дапамагчы засвоіць сэнсавыя і граматычныя асаблівасці *абагульнена-асабовых сказаў*. Паказаць функцыянальнае прызначэнне абагульнена-асабовых сказаў – зрабіць вывад, вывесці агульнае палажэнне, каб ахарактарызаваць якую-небудзь з'яву.<br>Выпрацоўваць уменні выяўляць абагульнена-асабовыя сказы ў тэкстах, даваць ім характарыстыку, вызначаць сэнсава-стылістычную ролю, ужываць з пэўнымі камунікатыўнымі мэтамі ва ўласным маўленні. Паўтарыць пастаноўку знакаў прыпынку ў складаным сказе | § 30, практ. 162, 163<br>**Д/з:** § 30, запісаць 5–6 прыказак, якія з'яўляюцца абагульнена-асабовымі сказамі |

*Працяг*

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| 34 | Безасабовыя сказы: будова, значэнне, ужыванне | Спрыяць асэнсаванню вучнямі паняцця *безасабовы сказ*; паказаць сэнсава-стылістычную ролю такіх сказаў у маўленні. Выпрацаваць уменні бачыць базасабовыя сказы ў тэкстах, даваць ім граматычную характарыстыку, праводзіць сінанімічную замену двухсастаўных і безасабовых сказаў, параўноўваць іх сэнсавае значэнне; адрозніваць безасабовыя сказы ад пэўна-, няпэўна- і абагульнена-асабовых; выяўляць сэнсава-стылістычную ролю безасабовых сказаў у тэкстах; ужываць такія сказы з пэўнымі камунікатыўнымі задачамі ва ўласным маўленні | § 31, практ. 164–167<br>**Д/з:** § 31, практ. 168 |
| 35 | Назыўныя сказы: будова, значэнне, ужыванне | Садзейнічаць асэнсаванню вучнямі паняцця *назыўны сказ*; паказаць сэнсава-стылістычную ролю назыўных сказаў у тэксце.<br>Выпрацоўваць уменні бачыць такія сказы ў тэксце, характарызаваць іх значэнне, будову і ролю ў тэксце; адрозніваць назыўныя сказы ад двухсастаўных і няпоўных; правільна інтанаваць такія сказы пры чытанні; ставіць неабходныя знакі прыпынку на пісьме; ужываць ва ўласным маўленні з пэўнымі камунікатыўнымі задачамі | § 32, практ. 169–172, знаёмства з парадкам і правіламі сінтаксічнага разбору аднасастаўнага сказа (с. 127)<br>**Д/з:** § 32, практ. 173 |
| 36 | Пераклад з рускай мовы на беларускую мастацкага тэксту з апісаннем з'яў прыроды | Садзейнічаць выпрацоўцы ў вучняў умення перакладаць тэкст у мастацкім стылі; удасканальваць уменні акрэсліваць тэму і асноўную думку тэксту, падбіраць і захоўваць пры перакладзе адпаведныя сродкі мастацкай выразнасці, захоўваць кампазіцыйную будову тэксту; абгрунтавана ўжываць двухсастаўныя і аднасастаўныя сказы | Практ. 174. Чытанне і аналіз тэксту, характарыстыка моўных асаблівасцей аўтарскага стылю, падбор адэкватных сродкаў для перакладу. Напісанне тэксту перакладу |
| 37 | Паглыбленне паняцця пра публіцыстычны стыль | Стварыць умовы для паглыблення паняцця пра публіцыстычны стыль: сферу ужывання, задачы маўлення, асноўныя рысы, характэрныя моўныя сродкі, жанры. | § 33, 34, практ. 177–184<br>**Д/з:** § 33, 34, практ. 185 |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| | | Выпрацоўваць уменне пазнаваць тэксты публіцыстычнага стылю, даваць ім характарыстыку, ствараць уласныя тэксты названага стылю | |
| 38 | Падагульненне і сістэматызацыя вывучанага па раздзеле «Аднасастаўныя сказы» | Дапамагчы падагульніць і сістэматызаваць веды пра аднасастаўныя сказы, удасканальваць уменні адрозніваць віды аднасастаўных сказаў па сэнсавых і граматычных прыметах; адрозніваць аднасастаўныя і двухсастаўныя сказы; выконваць сінтаксічны разбор аднасастаўных сказаў; ставіць коску ў складаным сказе з улікам асаблівасцей граматычных асноў; выяўляць сэнсава-стылістычную ролю аднасастаўных сказаў у тэкстах публіцыстычнага стылю, мэтанакіравана ўжываць розныя віды аднасастаўных сказаў ва ўласным маўленні | Кантрольныя пытанні і заданні рубрыкі «Праверце сябе» на с. 135, дадатковы дыдактычны матэрыял |
| 39 | **Кантрольны дыктант з дадатковымі заданнямі** | Выявіць узровень засваення вывучаных тэм і сфарміраванасць адпаведных аналітыка-сінтэтычных моўных і маўленчых уменняў і навыкаў. Удасканальваць арфаграфічныя і пунктуацыйныя навыкі вучняў; вучыць кантраляваць саміх сябе, пры неабходнасці звяртацца да даведачных матэрыялаў | |
| **Няпоўныя сказы: будова, значэнне, ужыванне** (3 гадзіны) | | | |
| 40<br>41 | Няпоўныя сказы. Асаблівасці іх будовы, інтанаванне. Працяжнік у няпоўным сказе | Дапамагчы вучням засвоіць асаблівасці будовы няпоўных сказаў (аднасастаўных і двухсастаўных, развітых і неразвітых, простых і складаных); паказаць розніцу ў будове і значэнні поўных і няпоўных сказаў. Спрыяць асэнсаванню асаблівасці інтанацыйнага афармлення няпоўных сказаў і пастаноўкі на пісьме працяжніка ў іх. | § 35, практ. 186—188, 190, 191, 193<br>**Д/з:** § 35, практ. 189, 192 |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| | | Пазнаёміць з парадкам і правіламі сінтаксічнага разбору няпоўнага сказа.<br>Выпрацоўваць уменне знаходзіць у тэксце няпоўныя сказы, вызначаць адсутны член, адрозніваць няпоўныя сказы ад поўных з нулявой звязкай пры дзеяслове-выказніку, ад пэўна-асабовых, няпэўна-асабовых, назыўных; ставіць працяжнік па месцы пропуску члена сказа | |
| 42 | Асаблівасці ўжывання няпоўных сказаў у маўленні | Садзейнічаць разуменню вучнямі, як няпоўныя сказы рэалізуюць закон эканоміі моўных сродкаў. Засяродзіць увагу на тым, што няпоўныя сказы выкарыстоўваюцца галоўным чынам у дыялогах, а таксама ў складаных сказах, калі адзін з элементаў з'яўляецца агульным для яго састаўных частак.<br>Выпрацоўваць уменні дарэчна выкарыстоўваць няпоўныя сказы ў вусным і пісьмовым маўленні. Паўтарыць правапіс прыдатка з паяснёным назоўнікам праз дэфіс | § 36, практ. 194–201<br>**Д/з:** § 36, практ. 202 |
| **УСКЛАДНЕНЫ СКАЗ**<br>**Сказы з аднароднымі членамі: будова, значэнне, ужыванне**<br>(7 гадзін, з іх 3 гадзіны – на пісьмовыя работы) | | | |
| 43 | Паняцце пра ўскладнены сказ. Сказы з аднароднымі членамі. Спосабы выражэння аднародных членаў. Сувязь аднародных членаў пры дапамозе злучнікаў і без злучнікаў | Сфарміраваць паняцце пра ўскладнены сказ. Дапамагчы вучням удакладніць і пашырыць паняцце *аднародныя члены сказа*; пазнаёміць з развітымі аднароднымі членамі; аднароднымі членамі, якія маюць рознае марфалагічнае выражэнне; з канструкцыямі, што маюць некалькі радоў аднародных членаў; з канструкцыямі, якія аднароднымі членамі не з'яўляюцца; пазнаёміць з галоўным сродкам выражэння спалучальных адносін – інтанацыяй, лагічным націскам пры вымаўленні аднародных членаў сказа, злучальнымі злучнікамі. | § 37, 39, практ. 203–211, 218–224<br>**Д/з:** § 37, 39, практ. 225 |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| | | Выпрацоўваць навыкі знаходзіць канструкцыі з аднароднымі членамі ў выказванні, будаваць свае сказы з аднароднымі членамі (развітымі і неразвітымі), выражанымі адной часцінай мовы і рознымі, непадзельнымі словазлучэннямі і фразеалагізмамі; будаваць сказы з некалькімі радамі аднародных членаў, выпрацоўваць навыкі інтанавання і пастаноўкі знакаў прыпынку, выразнага чытання тэкстаў | |
| 44 | Аднародныя і неаднародныя азначэнні, іх адрозненне. Інтанаванне сказаў з аднароднымі членамі, знакі прыпынку ў іх | Стварыць умовы для асэнсавання вучнямі паняццяў *аднародныя* і *неаднародныя азначэнні*. Дапоўніць інфармацыю вучэбнага дапаможніка звесткамі аб тым, што азначэнні, якія малююць партрэт, могуць характарызаваць чалавека з розных бакоў, аднак гэтыя азначэнні ўсё роўна лічацца аднароднымі і раздзяляюцца коскамі, таму што ствараецца адно яркае агульнае ўражанне, напрыклад: *Лапавухі, блакітнавокі, вяснушкаваты хлапчук. Мароз упрыгожыў вокны новенькімі, яркімі ўзорамі.*<br>Выпрацоўваць уменні адрозніваць аднародныя і неаднародныя азначэнні з дапамогай алгарытму; вучыць выкарыстоўваць аднародныя і неаднародныя азначэнні ва ўласным маўленні; удасканальваць навыкі інтанавання сказаў, ускладненых аднароднымі членамі | § 38, 40 практ. 212–216, 226–247<br>**Д/з:** § 38, 40, практ. 248 або 249 |
| 45 | Сказы з абагульняльнымі словамі пры аднародных членах, інтанаванне, знакі прыпынку | Дапамагчы вучням паглыбіць паняцце пра сказы з абагульняльнымі словамі пры аднародных членах і пазнаёміць з правіламі пастаноўкі знакаў прыпынку. Пазнаёміць з парадкам і правіламі сінтаксічнага разбору сказаў з аднароднымі членамі.<br>Выпрацоўваць навыкі пастаноўкі знакаў прыпынку ў сказах з абагульняльнымі словамі; выпрацоўваць уменне выкарыстоўваць сказы з абагульняльнымі словамі пры аднародных членах ва ўласным маўленні | § 41, практ. 250–256, парадак сінтаксічнага разбору сказаў з аднароднымі членамі (с. 185)<br>**Д/з:** § 41, практ. 257 |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| 46 | Паглыбленне паняцця пра апісанне як тып маўлення | Садзейнічаць паглыбленню паняцця пра апісанне як тып маўлення, пазнаёміць з разнастайнымі відамі апісання: прадмета, месца, стану навакольнага асяроддзя, партрэта; з будовай апісання, характэрнымі моўнымі сродкамі. Выпрацоўваць уменне ствараць тэксты-апісанні з пэўнымі маўленчымі задачамі | § 42, практ. 258–266<br>**Д/з:** § 42, практ. 267 |
| 47 | Водгук на празаічны або вершаваны твор | Удасканальваць вуснае і пісьмовае маўленне вучняў, выпрацоўваць уменне пісаць водгук на вершаваны або празаічны твор, у якім адлюстроўваецца ўласнае меркаванне з апорай на добрае веданне зместу, мастацкай формы, апісанне свайго ўспрымання і разгорнутую ацэнку змястоўна-мастацкіх дэталяў першакрыніцы | Чытанне тэксту, аналіз прапанаванага мастацкага твора, аргументаванае выказванне сваіх уражанняў і ацэнка твора. Напісанне водгуку<br>**Д/з:** напісаць водгук на самастойна выбраны твор |
| 48<br>49 | **Кантрольная тэставая работа**<br>Аналіз тэставай работы | Выявіць узровень засваення вывучаных тэм і сфарміраванасць адпаведных аналітыка-сінтэтычных моўных і маўленчых уменняў і навыкаў | |
| **Сказы са зваротkамі, пабочнымі словамі, устаўнымі канструкцыямі.<br>Словы-сказы: будова, значэнне, ужыванне**<br>(5 гадзін, з іх 2 гадзіны — на пісьмовыя работы) | | | |
| 50 | Зваротак. Спосабы выражэння звароткa. Неразвітыя і развітыя звароткі, інтанаванне, знакі прыпынку. Зваротак як сродак маўленчага этыкету | Актуалізаваць вывучанае пра зваротак у 5 класе. Паглыбіць веды і ўменні вучняў пра віды аднасастаўных сказаў; засяродзіць увагу на тым, што будова і значэнне зваротkаў адрозніваюцца ў залежнасці ад формы і стылю маўлення. Паглыбіць веды пра зваротак за кошт увагі да яго функцыянальнай характарыстыкі. | § 43, практ. 268–283<br>**Д/з:** § 43, практ. 284 |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| | | Выпрацоўваць уменні вызначаць сказы са звароткамі, характарызаваць паводле спосабу выражэння, структуры (развітыя ці неразвітыя), ужывання (адзіночныя ці аднародныя); правільна інтанаваць і ставіць знакі прыпынку. Дапамагчы выпрацаваць уменне правільна карыстацца зваротам у маўленні; навучыць з дапамогай зваротка выражаць свае адносіны да суразмоўцы, а таксама выпрацоўваць уменне выяўляць у характары зваротка адносіны да сябе як адрасата вуснага ці пісьмовага выказвання. Выпрацоўваць навыкі напісання афіцыйнага пісьма і віншавання з якой-небудзь нагоды. Навучыць успрымаць паэтычны твор у тых адценнях і вобразах, якія ствараюцца асаблівасцямі звароткаў у мастацкім стылі | |
| 51 | Пабочныя словы, словазлучэнні і сказы, устаўныя канструкцыі. Іх значэнне і роля ў сказе, інтанаванне і знакі прыпынку | Дапамагчы вучням авалодаць катэгорыяй пабочнасці як эфектыўнага сродку выражэння ў маўленні мадальна-камунікатыўных адносін і тым самым выпрацоўваць навык карыстання багатымі магчымасцямі беларускай мовы. Стварыць умовы для вывучэння пабочных слоў не толькі як граматычнай катэгорыі, але і як сродку перадачы сваіх адносін да паведамлення. На аснове семантыка-граматычнага аналізу вучыць адрозніваць пабочныя словы ад аманімічнага члена сказа; карыстацца пабочнымі словамі для сувязі сказаў і частак тэксту | § 44, практ. 285–301<br>**Д/з:** § 44, практ. 302 |
| 52<br>53 | **Кантрольны падрабязны пераказ апавядальнага тэксту з элементамі разважання** | Выявіць узровень сфарміраванасці ўменняў вучняў адэкватна перадаваць змест пачутага апавядальнага тэксту з элементамі разважання, захоўваючы яго структуру, змест, моўныя асаблівасці аўтарскага стылю | |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| 54 | Словы-сказы | Стварыць умовы для асэнсавання вучнямі асаблівасцей слоў-сказаў як нерасчлянёных структур, якія не выражаюць сінтаксічных адносін. Падкрэсліць канцэптуальнасць гэтых моўных адзінак як сродку выражэння мадальнасці, максімальную абумоўленасць іх сэнсавага значэння маўленчай сітуацыяй. Выпрацоўваць уменне расстаўляць знакі прыпынку ў словах-сказах. Паглыбіць веды вучняў пра афіцыйны і мастацкі стылі | § 45, практ. 303–305 |
| | | **IV чвэрць** (16 урокаў)<br>**Сказы з адасобленымі членамі: будова, значэнне, ужыванне**<br>(9 гадзін, з іх 2 гадзіны – на пісьмовыя работы) | |
| 55<br>56 | Паняцце пра адасабленне. Адасобленыя дапасаваныя і недапасаваныя азначэнні | Садзейнічаць асэнсаванню вучнямі паняцця *адасобленыя члены сказа*, іх адметнай структурна-семантычнай характарыстыкі, прычын, умоў і сродкаў адасаблення, прызначэння ў маўленні. Паказаць, што прычынай адасаблення з'яўляецца жаданне ўзмацніць, асабліва падкрэсліць сэнсавую ролю пэўнага даданага члена сказа, канкрэтызаваць апісанне дзеяння, даць больш глыбокую характарыстыку асобе або прадмету, надаць сказу эмацыянальную афарбоўку. Пазнаёміць з умовамі адасаблення: парадак слоў у сказе (пазіцыя перад словам, да якога адносіцца адасоблены член, ці пасля яго), ступень развітасці даданага члена, яго сэнсавая нагрузка, сінтаксічная неспалучальнасць звязаных па сэнсе слоў (асабовых займеннікаў і азначэнняў). Паказаць сродкі адасаблення: інтанацыя ў вусным маўленні і знакі прыпынку – коска або працяжнік – на пісьме. Выпрацоўваць уменні вызначаць адасобленыя дапасаваныя і неда- | § 46, 47, практ. 306–313<br>**Д/з:** § 46, 47, практ. 314 |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| | | пасаваныя, развітыя і неразвітыя азначэнні, устанаўліваць марфолага-сінтаксічныя адносіны паміж членамі сказа (даваць характарыстыку членам сказа, улічваючы разгорнутасць, спосаб выражэння, пазіцыю паяснёнага члена адносна паясняльнага), правільна інтанаваць у маўленчай плыні і ставіць знакі прыпынку, вызначаць сэнсава-стылістычную ролю ў тэксце, выкарыстоўваць ва ўласным вусным і пісьмовым маўленні, узбагачаць граматычны лад мовы вучняў. Паўтарыць правапіс складаных прыметнікаў | |
| 57 | Сказы з адасобленымі прыдаткамі, знакі прыпынку | Спрыяць асэнсаванню вучнямі паняцця *адасоблены прыдатак*, прычын, умоў і сродкаў адасаблення прыдаткаў, функцыі ў сказе (выражаюць дадатковае паведамленне або акалічнаснае значэнне), пазнаёміць са сродкамі сувязі прыдаткаў з паяснёнымі словамі.<br>Выпрацоўваць уменні хутка арыентавацца ў структуры сказа з адасобленымі прыдаткамі, адрозніваць развітыя і неразвітыя прыдаткі, устанаўліваць марфолага-сінтаксічныя адносіны паміж прыдаткам і паяснёным словам, правільна інтанаваць сказы з прыдаткамі ў маўленчай плыні, дакладна акрэсліваць умовы адасаблення прыдаткаў, фармуляваць адпаведныя пунктуацыйныя правілы; вызначаць сэнсава-стылістычную ролю адасобленых прыдаткаў у тэкстах розных стыляў; выпрацоўваць уменне ўжываць адасобленыя прыдаткі ва ўласным маўленні вучняў; развіваць лагічнае мысленне | § 48, практ. 315—322<br>**Д/з:** § 48, практ. 323 |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| | | ведамі сувязі частак, сказы з рознымі відамі сувязі частак у сказы іншай граматычнай структуры).<br>Актуалізаваць веды вучняў пра ўжыванне і правапіс прыназоўнікаў | |
| 47<br>48<br>49 | Знакі прыпынку паміж часткамі ў складаных сказах з рознымі відамі сувязі частак.<br>Паўтарэнне. Ужыванне і правапіс злучнікаў, часціц | Азнаёміць з правіламі пастаноўкі знакаў прыпынку ў складаных сказах з рознымі відамі сувязі частак.<br>Выпрацоўваць уменне правільна пунктуацыйна афармляць складаныя сказы з рознымі відамі сувязі частак.<br>Удасканальваць уменні знаходзіць у тэкстах складаныя сказы з рознымі відамі сувязі частак, абгрунтоўваць мэтазгоднасць іх ужывання, вылучаць сэнсавыя часткі ў іх; вызначаць разнавіднасці складаных сказаў з рознымі відамі сувязі частак; адрозніваць складаныя сказы з рознымі відамі сувязі частак ад іншых тыпаў складаных сказаў; вызначаць межы і сродкі сувязі прэдыкатыўных частак у складаных сказах з рознымі відамі сувязі, сэнсавыя адносіны паміж прэдыкатыўнымі часткамі; будаваць схемы складаных сказаў з рознымі відамі сувязі частак; праводзіць сінанімічныя замены (перабудоўваць простыя і складаныя сказы ў складаныя сказы з рознымі відамі сувязі частак, складаныя сказы з рознымі відамі сувязі частак у сказы іншай граматычнай структуры).<br>Актуалізаваць веды вучняў пра ўжыванне і правапіс злучнікаў, часціц | § 32, практ. 162—165<br>**Д/з:** § 32, практ. 166<br>§ 32, практ. 167, 169; запіс пад дыктоўку складаных сказаў з рознымі відамі сувязі частак, тлумачэнне пастаноўкі знакаў прыпынку<br>**Д/з:** § 32, практ. 168<br>§ 32, практ. 171; перабудова простых, складаназлучаных, складаназалежных, бяззлучнікавых складаных сказаў у складаныя сказы з рознымі відамі сувязі частак; складаных сказаў з рознымі відамі сувязі частак у сказы іншай граматычнай структуры<br>**Д/з:** § 32, практ. 170 |
| 50 | **Кантрольная тэставая работа** | Выявіць узровень засваення тэарэтычнага матэрыялу па вывучаных тэмах, сфарміраванасці моўных і маўленчых уменняў і навыкаў | |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| 51<br>52 | Аналіз біяграфій беларускіх пісьменнікаў ці лінгвістаў.<br>Паўтарэнне. Дэфіс у выклічніках | Паглыбіць веды пра функцыянальныя стылі маўлення (афіцыйны стыль).<br>Удасканальваць уменні працы з тэкстамі афіцыйнага стылю: вызначаць адрасата і мэтанакіраванасць, паслядоўнасць развіцця думкі, абгрунтоўваць мэтазгоднасць выкарыстання моўных сродкаў, у тым ліку складаных сказаў з рознымі відамі сувязі частак.<br>Азнаёміць з біяграфіямі беларускіх пісьменнікаў ці лінгвістаў, з іх творчымі і навуковымі дасягненнямі.<br>Актуалізаваць веды вучняў пра напісанне выклічнікаў | § 34 (с. 184–186, 189), практ. 175 (аналіз аўтабіяграфіі), 176 (у якасці дадатковага задання можна прапанаваць выпісаць 1 складаны сказ з рознымі відамі сувязі частак, пабудаваць яго схему, растлумачыць пастаноўку знакаў прыпынку)<br>**Д/з:** § 34, падрыхтаваць матэрыялы біяграфіі або аўтабіяграфіі аднаго з беларускіх пісьменнікаў, творчасць якіх вывучаецца па праграме ў курсе літаратуры, або вядомых беларускіх лінгвістаў; скласці план<br>§ 34, практ. 177, аналіз падрыхтаваных вучнямі матэрыялаў біяграфій і аўтабіяграфій<br>**Д/з:** § 34, практ. 175 (падрыхтаваць матэрыял) |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| 53 | Напісанне заявы, аўтабіяграфіі | Пашырыць веды пра афіцыйны стыль і яго жанры, азнаёміць з правільным афармленнем афіцыйных папер (заявы, аўтабіяграфіі).<br>Выпрацоўваць уменне правільна афармляць афіцыйныя паперы (пісаць заяву, аўтабіяграфію) | § 34 (с. 190–191), практ. 175, 178<br>**Д/з:** § 34, выпісаць з твораў мастацкай літаратуры 4 складаныя сказы з рознымі відамі сувязі частак, пабудаваць іх схемы |
| 54 | Падагульненне і сістэматызацыя вывучанага па раздзеле «Складаныя сказы з рознымі відамі сувязі частак: будова, значэнне, ужыванне». Сінтаксічны разбор складаных сказаў з рознымі відамі сувязі частак.<br>Паўтарэнне. Словазлучэнне. Асаблівасці дапасавання і кіравання ў беларускай мове | Падагульніць і сістэматызаваць веды пра складаныя сказы з рознымі відамі сувязі частак, іх пунктуацыйнае афармленне.<br>Азнаёміць з парадкам поўнага вуснага і пісьмовага сінтаксічнага разбору складанага сказа з рознымі відамі сувязі частак.<br>Выпрацоўваць уменне рабіць поўны сінтаксічны разбор складаных сказаў з рознымі відамі сувязі частак.<br>Удасканальваць уменні знаходзіць у тэкстах складаныя сказы з рознымі відамі сувязі частак, абгрунтоўваць мэтазгоднасць іх ужывання, вылучаць сэнсавыя часткі ў іх; вызначаць разнавіднасці складаных сказаў з рознымі відамі сувязі частак; вызначаць межы і сродкі сувязі прэдыкатыўных частак у складаных сказах з рознымі відамі сувязі, сэнсавыя адносіны паміж прэдыкатыўнымі часткамі; будаваць схемы складаных сказаў з рознымі відамі сувязі частак; складаць такія сказы, карыстацца імі ў маўленні; правільна пунктуацыйна афармляць складаныя сказы з рознымі відамі сувязі частак.<br>Актуалізаваць веды вучняў пра словазлучэнне, асаблівасці дапасавання і кіравання ў беларускай мове | § 33, практ. 172–174 |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| **IV чвэрць** (16 урокаў) | | | |
| **Сінтаксічныя канструкцыі з чужой мовай: будова, значэнне, ужыванне** (9 гадзін, з іх 1 гадзіна – на пісьмовую работу) | | | |
| 55<br>56 | Спосабы перадачы чужой мовы. Асаблівасці будовы сінтаксічных канструкцый з простай мовай, іх інтанаванне і выкарыстанне. Знакі прыпынку ў сказах з простай мовай.<br>Паўтарэнне. Двухсастаўныя сказы. Працяжнік паміж дзейнікам і выказнікам | Сфарміраваць уяўленне пра спосабы перадачы чужой мовы. Паглыбіць веды пра будову сінтаксічных канструкцый з простай мовай, іх пунктуацыйнае афармленне.<br>Удасканальваць уменні знаходзіць у тэкстах сінтаксічныя канструкцыі з простай мовай, інтанаваць іх, вызначаць асаблівасці будовы, будаваць сінтаксічныя канструкцыі з простай мовай, будаваць іх схемы, правільна пунктуацыйна афармляць сінтаксічныя канструкцыі з простай мовай.<br>Актуалізаваць веды вучняў аб двухсастаўных сказах, правілах пастаноўкі працяжніка паміж дзейнікам і выказнікам | § 35, 36, практ. 179–181, практ. 182 (пабудова схем канструкцый з простай мовай)<br>**Д/з:** § 35, 36, практ. 183<br>§ 36, практ. 184 (пабудова схем канструкцый з простай мовай), практ. 186, 187 (на выбар), практ. 188 (па варыянтах), 189 (па варыянтах)<br>**Д/з:** § 36, практ. 185 |
| 57<br>58 | Маналог. Дыялог, яго афармленне на пісьме.<br>Паўтарэнне. Аднасастаўныя сказы, іх віды | Сфарміраваць уяўленне пра формы маўлення маналог і дыялог, асаблівасці іх будовы, афармленне дыялогу на пісьме.<br>Замацоўваць уменні вызначаць маналагічнае і дыялагічнае маўленне; правільна пунктуацыйна афармляць дыялагічнае маўленне; ствараць дыялогі на пэўную тэму, інтанаваць іх.<br>Актуалізаваць веды вучняў аб аднасастаўных сказах, іх відах | § 37, 38, практ. 196–198, практ. 190, 191<br>**Д/з:** § 37, 38, практ. 199<br>§ 37, 38, практ. 192, 193, 195<br>**Д/з:** § 37, 38, практ. 194 |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| 59<br>60 | Сказы з ускоснай мовай.<br>Паўтарэнне. Няпоўныя сказы. Працяжнік у няпоўным сказе | Сфарміраваць уяўленне пра ўскосную мову як сродак перадачы зместу чужога выказвання, асаблівасці яе будовы, сінтаксічную сінаніміку сказаў з простай і сказаў з ускоснай мовай (спосабы замены простай мовы на ўскосную).<br>Выпрацоўваць уменні знаходзіць у тэкстах сказы з ускоснай мовай, інтанаваць іх, вызначаць асаблівасці будовы; замяняць простую мову на ўскосную і наадварот.<br>Удасканальваць уменні правільна пунктуацыйна афармляць сказы з простай і ўскоснай мовай.<br>Актуалізаваць веды вучняў пра няпоўныя сказы, пастаноўку працяжніка ў няпоўных сказах | § 39, 40, практ. 200—202, 204<br>**Д/з:** § 39, 40, практ. 205<br>§ 39, 40, практ. 203; запіс пад дыктоўку тэкстаў ■ простай мовай, замена простай мовы на ўскосную<br>**Д/з:** § 39, 40, падабраць тэкст з простай мовай, замяніць простую мову на ўскосную |
| 61 | Цытаты, іх роля ў выказванні, афармленне на пісьме.<br>Паўтарэнне. Сказы з аднароднымі членамі, знакі прыпынку ў іх | Сфарміраваць уяўленне пра цытаты, іх ролю ў выказванні, спосабы перадачы (уключэння ў тэкст), пунктуацыйнае афармленне.<br>Выпрацоўваць уменні карыстацца цытатамі ў адпаведнасці з мэтай і характарам выказвання (дарэчы падбіраць і ўключаць цытаты ў сачыненні, рэфераты, паведамленні, даклады і інш.), пунктуацыйна афармляць іх.<br>Актуалізаваць веды вучняў аб сказах з аднароднымі членамі, правілах пастаноўкі знакаў прыпынку ў іх | § 41, практ. 206—209<br>**Д/з:** § 41, практ. 211 (падабраць цытаты) |
| 62 | Эпіграф.<br>Паўтарэнне. Сказы са звароткамі, пабочнымі словамі, устаўнымі канструкцыямі, знакі прыпынку. Словы-сказы | Сфарміраваць уяўленне пра эпіграф, яго ролю ў пісьмовым выказванні, размяшчэнне і афармленне.<br>Выпрацоўваць уменні дарэчы падбіраць эпіграфы да сачынення, правільна пісьмова іх афармляць; рыхтаваць і весці публічныя дыскусійныя выступленні з цытаваннем першакрыніц, аргументаваць ці аспрэчваць выказванне, захоўваючы маўленчыя і маральна-этычныя нормы. | § 42, практ. 210 (дыскусія)<br>**Д/з:** § 42, практ. 211 (напісаць сачыненне-разважанне з выкарыстаннем адной з падабраных цытат у якасці эпіграфа) |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| | | Актуалізаваць веды вучняў аб сказах са звароткамі, пабочнымі словамі, устаўнымі канструкцыямі, правілах пастаноўкі знакаў прыпынку ў іх; аб словах-сказах | |
| 63 | **Кантрольны дыктант** | Выявіць узровень сфарміраванасці арфаграфічных навыкаў і пунктуацыйных уменняў | |
| **Падагульненне і сістэматызацыя вывучанага за год** (6 гадзін, з іх 2 гадзіны — на пісьмовыя работы) | | | |
| 64 | Сінтаксіс як раздзел граматыкі, яго асноўныя адзінкі і іх характарыстыка.<br>Паўтарэнне. Сказы з адасобленымі членамі, знакі прыпынку | Падагульніць і сістэматызаваць веды вучняў па сінтаксісе, засяродзіўшы ўвагу на яго асноўных адзінках (словазлучэнні, простым сказе, складаным сказе) і іх характарыстыцы (сінтаксічных прыметах, граматычным значэнні, будове; інтанацыйным і пунктуацыйным афармленні сказаў пэўнай структуры, іх сэнсавай ролі ў тэкстах), на ўзаемасувязі ўсіх раздзелаў навукі аб мове.<br>Азнаёміць з правіламі падрыхтоўкі да публічнага выступлення, з відамі плана і парадкам складання тэзісаў.<br>Удасканальваць уменні правільна ўтвараць словазлучэнні, простыя і складаныя сказы; пунктуацыйныя ўменні.<br>Актуалізаваць веды вучняў аб сказах з адасобленымі членамі, правілах пастаноўкі знакаў прыпынку ў іх | § 43, практ. 212—214<br>**Д/з:** § 43, практ. 215 |
| 65 | Узаемасувязь сінтаксісу, лексікі і марфалогіі.<br>Паўтарэнне. Складаназлучаныя сказы. Знакі прыпынку паміж часткамі ў складаназлучаных сказах | Падагульніць і сістэматызаваць веды вучняў па сінтаксісе, лексіцы, марфалогіі, засяродзіўшы ўвагу на ўзаемасувязі гэтых раздзелаў мовазнаўства.<br>Удасканальваць арфаграфічныя навыкі і пунктуацыйныя ўменні; уменні складаць план і тэзісы тэкстаў, пераказваць тэксты з апорай на іх, рабіць поўны сінтаксічны разбор сказаў рознай будовы.<br>Актуалізаваць веды вучняў аб складаназлучаных сказах, правілах пастаноўкі знакаў прыпынку паміж іх часткамі | § 44, практ. 216, 217<br>**Д/з:** § 44, практ. 219 (па варыянтах); паўтарыць § 4—12 |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| 66 | Складанне канспекта; выступленне з дакладам; абмеркаванне выступленняў. Паўтарэнне. Складаназалежныя сказы. Знакі прыпынку паміж часткамі ў складаназалежных сказах | Сфарміраваць уяўленне пра сутнасць і мэтазгоднасць складання канспектаў. Выпрацоўваць уменні складаць канспект, выступаць з паведамленнем перад аўдыторыяй; аналізаваць уласнае і чужое выказванне. Актуалізаваць веды вучняў аб складаназалежных сказах, правілах пастаноўкі знакаў прыпынку паміж іх часткамі | § 44, практ. 218 (складанне канспекта); выступленне з паведамленнямі на лінгвістычную тэму (паводле задання практ. 219), абмеркаванне выступленняў **Д/з:** падрыхтаваць паведамленне на адну з тэм: «Складаныя сказы з рознымі відамі сувязі частак», «Сінтаксічныя канструкцыі з чужой мовай» (на выбар); паўтарыць § 13—25 |
| 67 | Нормы літаратурнага вымаўлення. Паўтарэнне. Бяззлучнікавыя складаныя сказы. Знакі прыпынку паміж часткамі ў бяззлучнікавых складаных сказах | Актуалізаваць веды вучняў пра асноўныя правілы літаратурнага вымаўлення. Удасканальваць уменні вымаўляць словы паводле арфаэпічных нормаў, аналізаваць сваё і чужое выказванне; знаходзіць неадпаведнасць паміж напісаннем слоў і іх вымаўленнем; рабіць фанетычны і сінтаксічны разборы. Актуалізаваць веды вучняў пра бяззлучнікавыя складаныя сказы, правілы пастаноўкі знакаў прыпынку паміж іх часткамі | § 45, практ. 220, 222, 223 **Д/з:** § 45, практ. 221 (выканаць дадатковае заданне — падрыхтаваць паведамленне пра стылі беларускай мовы); паўтарыць § 26—30 |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| 68 | Пераклад навукова-папулярнага тэксту. Паўтарэнне. Складаныя сказы з рознымі відамі сувязі частак. Знакі прыпынку паміж часткамі ў складаных сказах з рознымі відамі сувязі частак. Сінтаксічныя канструкцыі з чужой мовай | Удасканальваць уменні аналізаваць рускамоўны тэкст, цеpакладаць яго на беларускую мову, захоўваючы жанравыя і стылістычныя асаблівасці, правільна ўспрымаць змест прачытанага на рускай мове і без скажэнняў перадаваць яго па-беларуску. Актуалізаваць веды вучняў аб складаных сказах з рознымі відамі сувязі частак, правілах пастаноўкі знакаў прыпынку паміж іх часткамі; сінтаксічных канструкцыях з чужой мовай | § 45, практ. 221<br>**Д/з:** паўтарыць § 31–42 |
| 69 | Паўтарэнне складаных пытанняў арфаграфіі і пунктуацыі | Актуалізаваць веды вучняў па арфаграфіі і пунктуацыі. Удасканальваць арфаграфічныя навыкі і пунктуацыйныя ўменні | § 46, практ. 224, 225, 228, практ. 226, 227, 229–231 (на выбар), практ. 232–234 (на выбар) |
| 70 | Рэзервовая гадзіна | | |

## Беларуская літаратура
8 клас

(53 гадзіны на год)

*Лазарук, М. А.* Беларуская літаратура : вучэб. дапам. для 8-га кл. устаноў агул. сярэд. адукацыі з беларус. і рус. мовамі навучання / М. А. Лазарук, В. І. Русілка, І. М. Слесарава. — Мінск : Нац. ін-т адукацыі, 2011.

| № урока і дата правядзення | Тэма ўрока | Мэты і задачы ўрока | Вучэбны матэрыял, дамашняе заданне |
|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 |
| 1 | Уводзіны. Літаратура як від мастацтва, чалавек як галоўны аб'ект літаратуры | Аднавіць веды вучняў аб літаратуры як мастацтве слова, аб паэзіі і прозе як спосабах паказу жыцця, увесці паняцце пра роды літаратуры: эпічны, лірычны і драматычны. Пазнаёміць з новым вучэбным дапаможнікам | Артыкул «Роды мастацкай літаратуры». Падрыхтаваць адказ на пытанні да артыкула, падумаць, чаму першы раздзел вучэбнага дапаможніка мае назву «У трох абліччах» |
| 2 | **І. У трох абліччах** Р. Барадулін. «Трэба дома бываць часцей» | Разглядзець верш у адзінстве яго зместу і формы, выхоўваць патрыятызм і духоўнасць вучняў, зацікаўліваць паэзіяй Р. Барадуліна | Тэкст верша Р. Барадуліна «Трэба дома бываць часцей» вывучыць на памяць, адказаць на пытанні, змешчаныя ў вучэбным дапаможніку |
| 3 | В. Карамазаў. «Дзяльба кабанчыка». Важная нагода для паездкі дамоў | Дапамагчы вучням зарыентавацца ў змесце апавядання, звярнуць увагу на ролю ў ім пейзажу і партрэта; паглыбляць паняцці «тэма», «ідэя», «праблема твора»; развіваць уменне назіраць за сродкамі раскрыцця характару ў эпічным творы; выхоўваць пачуццё павагі да бацькоў і сваякоў | Тэкст апавядання В. Карамазава «Дзяльба кабанчыка». Пераказваць змест апавядання, падрыхтаваць вуснае паведамленне пра Сцяпана па плане: 1. Як склалася жыццё Сцяпана? 2. Што найбольш засмучае і трывожыць яго ў гэты прыезд? 3. Якія дэталі і акалічнасці свед- |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| | | | чаць пра тое, што ён дома «бывае не госцем»? 4. Якімі рысамі характару Сцяпан падобны да маці? |
| 4 | В. Карамазаў. «Дзяльба кабанчыка». Клопат маці і адказнасць дарослых дзяцей | Развіваць уменне суадносіць учынкі герояў з матывамі іх паводзін, выхоўваючы пачуццё адказнасці за лёс бацькоў; параўноўваць характары літаратурных персанажаў твора; ствараць вусныя сачыненні-разважанні ў адказ на праблемныя пытанні, пастаўленыя аўтарам апавядання | Тэкст апавядання. Артыкул «Тэма, ідэя і праблема мастацкага твора».<br>Даць разгорнуты пісьмовы адказ на адно з пытанняў: 1. Чаму дзяльба кабанчыка выклікае непрыманне (бунт) Сцяпана? 2. Як прыезд Сцяпана дадому на гэты раз дапамог яму лепш зразумець сваю маці, сясцёр, сябе? 3. Да каго з герояў апавядання найбольш падыходзяць словы паэта Р. Барадуліна «...не страціў святое штосьці»? 4. Наколькі выразна звычайны жыццёвы эпізод — дзяльба кабанчыка — дапамог зразумець або душой адчуць вечны маральны абавязак дзяцей перад сваёй маці? |
| 5 | А. Дудараў. «Вечар» або «Кім».<br>«Вечар». «Звычайныя гісторыі» састарэлых вяскоўцаў | Паглыбіць непасрэднае чытацкае ўражанне вучняў пра сюжэт і вобразы галоўных герояў п'есы — Мульціка, Гастрыта, Ганны. Закласці веды пра драматычны твор і асаблівасці яго будовы, звярнуць увагу на тэматычную блізкасць п'есы «Вечар» да твораў, якія вывучаліся папярэдне (Р. Барадулін. «Трэба дома бываць часцей»; В. Карамазаў. «Дзяльба кабанчыка») | Тэкст фрагментаў драмы А. Дударава «Вечар» у вучэбным дапаможніку.<br>Выбарачна перачытваючы тэкст, адабраць матэрыял для характарыстыкі аднаго з персанажаў, падабраць назву для сваёй характарыстыкі па ўзоры, дадзеным настаўнікам |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| 6 | А. Дудараў. «Вечар». «Звычайныя гісторыі» або жыццёвыя драмы старых? | У працэсе перачытвання тэксту з рознымі мэтавымі ўстаноўкамі дапамагчы вучням убачыць розныя жыццёвыя перакананні Мульціка і Гастрыта, адметныя рысы характару кожнага з іх. Фарміраваць уменне гэтак жа ўдумліва чытаць у п'есе тэкст ад аўтара (рэмаркі, каментарыі да рэплік і інш.), як і дыялогі або маналогі персанажаў | Напісаць невялікае сачыненне-разважанне на адну з тэм, прапанаваных настаўнікам (гл. метадычны дапаможнік) |
| 7 | А. Дудараў. «Вечар». Выпрабаванне на чалавечнасць | Развіваць уменне выяўляць аўтарскую пазіцыю шляхам супастаўлення характараў галоўных персанажаў твора. Падвесці вучняў да асэнсавання сувязі назвы п'есы з яе ідэяй | Тэкст фрагментаў п'есы А. Дударава «Вечар». Адказаць на пытанні і заданні, змешчаныя ў вучэбным дапаможніку. Параўнаць жыццёвыя лёсы Гастрыта, Мульціка, Ганны |
| 8 | Тры мастацкія абліччы адной грамадскай праблемы. Урок падагульнення | Выявіць ідэйна-тэматычнае падабенства твораў, якія належаць да розных родаў літаратуры, і мастацкую адметнасць вырашэння рознымі аўтарамі праблемы адчужэння дзяцей ад бацькоўскага дому | Увесь матэрыял першага раздзела вучэбнага дапаможніка. Абагульняючыя пытанні і заданні да яго.<br>Напісаць невялікае апавяданне на адну з тэм, прапанаваных настаўнікам (гл. метадычны дапаможнік) |
| 5 | А. Дудараў. «Кім» | Дапамагчы вучням зарыентавацца ў часе і месцы дзеяння, адказаць сабе на пытанне «хто ёсць хто» ў пераліку дзейных асоб п'есы. Перачытваючы афішу, рэмаркі і тэкст першай дзеі, зрабіць выснову пра найбольш істотныя адрозненні драматычнага твора ад апавядання ці верша | Прачытаць першую дзею твора. Адказаць на пытанні, змешчаныя ў вучэбным дапаможніку |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| 6 | А. Дудараў. «Кім» | Прасачыць за развіццём дзеяння да канца п'есы, развіваць уменне вучняў ствараць вусныя паведамленні пра Лену, Юлю і Кіма як пра персанажаў, чые паводзіны і маўленне найбольш даступныя для разумення васьмікласнікаў | Дачытаць п'есу, скласці план характарыстык Лены, Юлі і Кіма |
| 7 | А. Дудараў. «Кім». Супярэчнасці ў адносінах дарослых | Высветліць сутнасць канфліктаў, пакладзеных у аснову драматычнага твора: паміж Каралёвым і Хадзеевым, Каралёвым і Кімам, а таксама паспрабаваць вызначыць галоўную супярэчнасць кахання Юлі і Каралёва. Удасканальваць уменне вучняў параўноўваць галоўных герояў п'есы | Падрыхтаваць вусныя паведамленні па тэме ўрока, звяртаючы ўвагу на аўтарскую пазіцыю ў дачыненні да герояў (на іх імёны або прозвішчы, сацыяльнае становішча, сутыкненне жыццёвых поглядаў), асаблівасці жанру і будовы твора |
| 8 | Урок падагульнення | Падагульніць назіранні вучняў за мастацкай своеасаблівасцю п'есы А. Дударава «Кім», даць уяўленне пра пастаноўку твора ў беларускіх тэатрах. Выявіць агульную праблематыку ўсіх трох твораў першага раздзела і іх родава-жанравае адрозненне | Увесь матэрыял першага раздзела вучэбнага дапаможніка. Абагульняючыя пытанні і заданні да яго |
| 9 | **II. Голасам душы і сэрца**<br>Народныя песні.<br>«Засмучонасць, працяглась, мяккасць, часам жартаўлівасць...» | Пашыраць уяўленне вучняў пра народныя песні як пра крыніцу лірычнай паэзіі, разгледзець багацце зместу, вобразна-выяўленчых сродкаў мовы беларускіх народных песень, развіваць уменне самастойна аналізаваць тэксты песень у адзінстве іх зместу і формы | Запісаць ад сваякоў ці суседзяў народную песню, каб прачытаць і ацаніць яе ў класе. Знайсці верш беларускага паэта, які стаў песняй, выдзеліць у ім мастацкія асаблівасці, уласцівыя народнай песні |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| 10 | Грамадзянская лірыка. Янка Купала. «Спадчына» | Дапамагчы вучням усвядоміць непарыўную злітнасць лірычнага героя верша з роднай зямлёй, высокі грамадзянскі пафас, адметнасць выяўлення патрыятычнага пачуцця праз кампазіцыю, памер, вобразна-выяўленчыя сродкі мовы; ствараць уяўленне пра лірычнага героя і грамадзянскую лірыку | Вывучыць верш на памяць, выпісаць з артыкула «Грамадзянская лірыка» азначэнні асноўных паняццяў |
| 11 | М. Багдановіч. «Слуцкія ткачыхі» | Абудзіць захапленне майстэрствам паэта, які здолеў стварыць прыцягальныя вобразы слуцкіх ткачых, роднай беларускай старонкі і яе сімвала — васілька; працягваць развіваць уменне аналізаваць паэтычны тэкст, выхоўваць эстэтычны густ, павагу да творцаў нацыянальнага мастацтва. Даць паняцце пра сімвал | Тэкст верша, артыкул «Сімвал». Перачытаць верш. Пазнаёміцца з яго трактоўкай А. Клышкам (артыкул «Пра верш "Слуцкія ткачыхі"») |
| 12 | У. Караткевіч. «Беларуская песня» | Даць паняцце пра лірычнага героя, засяродзіць увагу на своеасаблівай інтанацыі верша-гімна Бацькаўшчыне, яе гісторыі, культуры, мове; вучыць усведамляць грамадзянскую пазіцыю лірычнага героя | Тэкст верша. Артыкул «Лірычны герой». Пазнаёміцца з іншымі творамі грамадзянскай лірыкі, даць разгорнуты пісьмовы адказ на пытанне: «Якімі тэмамі, вобразамі, ідэямі, вершамі "грамадзянская лірыка" прадстаўлена ў тваёй чытацкай свядомасці?» |
| 13 | Філасофская лірыка. Максім Танк. «Шчасце» | Раскрыць сэнс паэтычных вобразаў, з якіх Максім Танк «складае» чалавечае шчасце. Параўнаць сваё ўяўленне пра шчасце з уяўленнем паэта, з выказваннямі пра сэнс чалавечага жыцця філосафаў і паэтаў. | Тэксты вершаў Максіма Танка «Шчасце», С. Грахоўскага «Чалавеку патрэбна не слава...». Прачытаць і асэнсаваць змест артыкула «Філасофская лірыка» |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| | | Развіваць уменне параўноўваць аднатэмныя вершы розных паэтаў, даць паняцце пра філасофскую лірыку | |
| 14 | А. Вярцінскі. «Жыццё даецца, каб жыццё тварыць...» | Усвядоміць сувязь паміж сучасным і вечным, падвесці вучняў да пераканання, што чалавек сам нясе адказнасць за выбар жыццёвай пазіцыі («не марнаваць, не нішчыць, не бурыць, — тварыць!») | Тэкст верша А. Вярцінскага «Жыццё даецца, каб жыццё тварыць...» ці іншых (на выбар настаўніка).<br>Дапісаць адказ у вершы Максіма Танка «Я спытаў чалавека...», прачытаць іншыя вершы А. Вярцінскага ў зборніку яго выбраных твораў «Хлопчык глядзіць...» (1992) або ў іншых выданнях. Падрыхтаваць сціслае паведамленне на тэму «Яго вершам уласцівы грамадзянскі пафас» |
| 15 | М. Багдановіч. «Раманс» | Пашырыць уяўленні вучняў пра жанры, якія існуюць у лірыцы (раманс як лірычная любоўная песня заўсёды апявае каханне). Развіваць уменне назіраць за рухам перажыванняў лірычнага героя з улікам усіх мастацкіх сродкаў (паўтораў, памеру, кампазіцыі, інтанацыі). Выхоўваць культуру інтымных пачуццяў падлеткаў, іх душэўную чуйнасць, імкненне да прыгажосці і чысціні чалавечых узаемаадносін | Тэкст верша М. Багдановіча «Раманс». Вывучыць на памяць верш М. Багдановіча «Раманс», падумаць, наколькі ўдала эпіграф са словамі французскага паэта Сюлі Прудома раскрывае сэнс верша |
| 16 | А. Куляшоў. «Бывай...» | Высветліць адпаведнасць малюнкаў прыроды настрою лірычнага героя, даць ад- | Тэкст верша, пытанні і заданні вучэбнага дапаможніка. |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| | | чуць сум і горыч ад расстання закаханых, звярнуць увагу на музыкальнасць паэтычных радкоў, падвесці да абагульнення пра асаблівасці інтымнай лірыкі | Перачытаць верш, вызначыць тыя асаблівасці інтымнай лірыкі, якімі яна адрозніваецца ад грамадзянскай |
| 17 | Пейзажная лірыка. Якуб Колас. «О, край родны, край прыгожы!..» | Пазнаёміць вучняў з паняццем «пейзажная лірыка» на прыкладзе ўрыўка з паэмы «Сымон-музыка» (О, край родны, край прыгожы!..) і іншых твораў паэта, якія вывучаліся раней. Даць уяўленне пра мастацкія функцыі пейзажнай лірыкі і пра яе сувязь з грамадзянскай, філасофскай, інтымнай | Тэксты праграмнага ўрыўка з паэмы, верша «Ручэй», артыкул вучэбнага дапаможніка «Пейзажная лірыка» |
| 18 | М. Багдановіч. «Цёплы вечар, ціхі вецер, свежы стог...» | Данесці праз выразнае чытанне паэтычную адухоўленасць з'яў прыроды. У працэсе перачытвання верша выявіць еднасць асобы лірычнага героя з летняй прыродай, гармонію ў сузіранні навакольнага свету. Развіваць уменне аналізаваць пейзажную лірыку: заўважаць адметнасць вобразна-выяўленчых сродкаў мовы, рытму і інтанацыі, параўноўваць творы, блізкія па тэме | Напісаць невялікае сачыненне-параўнанне двух пейзажных вершаваных твораў (на выбар вучняў або настаўніка) |
| 19 | Пейзажная лірыка і духоўны свет чалавека. Урок пазакласнага чытання | Развіваць уменне выразна чытаць вершы, розныя па змесце, настроі, насычанасці вобразна-выяўленчымі сродкамі мовы, тлумачыць іх сэнс і мастацкую адметнасць, а таксама заўважаць грамадзянскасць або філасафічнасць пейзажнай лірыкі | М. Багдановіч. «Вечар на захадзе ў попеле тушыць...»; В. Зуёнак. «Над зямлёю шугае верасень...»; А. Наўроцкі. «Чатырохгранная ваза»; П. Верлен. «Шарая гадзіна»; А. Міцкевіч. «Да Нёмана» і іншыя лірычныя творы ў кнізе |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| | | | для пазакласнага чытання «Ад роднае зямлі». Выбраць сярод разгледжаных на ўроку вершаў адзін ці два найбольш упадабаных, перачытаць іх і напісаць невялікае эсэ як бы ў адказ на заклік М. Багдановіча: «Кіньма жа думкі аб долі гаротнай, Хоць бы на момант спачынем душой!» |
| 20 | М. Багдановіч. «Санет» («Замёрзла ноччу шпаркая крыніца...») | Дапамагчы вучням пераканацца ў строгай адпаведнасці формы санета і яго ідэйнага зместу («магутная, жывучая вада» крыніцы — сімвал невычарпальнасці творчых магчымасцей асобы і ўсяго народа). Прасачыць, як у першых васьмі радках санета М. Багдановіч здолеў стварыць запамінальны вобраз крыніцы | Тэксты вершаў М. Багдановіча «Замёрзла ноччу шпаркая крыніца» і «Санет» У. Шэкспіра. Параўнаць верш М. Багдановіча з «Санетам» У. Шэкспіра, настарацца заўважыць адрозненні ў іх форме і змесце |
| 21 | А. Грачанікаў. «Сваці, кахання чыстая зара...» | Пашырыць уяўленні вучняў пра класічныя формы паэзіі, вызначыўшы своеасаблівасць актавы. Спасылаючыся на тэкст верша і на прыклады іншых літаратурных твораў, настарацца напоўніць канкрэтным зместам абагульненне, выказанае паэтам, падумаць, якія літаратурныя асацыяцыі выклікае актава А. Грачанікава | Тэкст названага верша. Перачытаць верш А. Грачанікава, знайсці поўны тэкст гэтага твора і адказаць на пытанне, з якімі маральнымі высновамі паэта можна згадзіцца, а з якімі — не. Паспрабаваць скласці актаву па ўзоры А. Грачанікава |
| 22 | М. Багдановіч. «Трыялет» («Калісь глядзеў на сонца я...») | Навучыць падлеткаў выдзяляць сярод іншых такую страфічную форму верша, як трыялет, давесці да іх свядомасці, што змест і настрой трыялетаў можа быць зусім | Тэксты трыялетаў М. Багдановіча, Д. Бічэль. Перачытаць тэкст трыялета М. Багдановіча «Калісь глядзеў на сонца я...». |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| | | розны: ад сузіральна-лагоднага ці гулліва-пацяшальнага, як у пейзажнай ці інтымнай лірыцы (напрыклад, у трыялетах Д. Бічэль), да па-грамадзянску незаспакоена-га, як у М. Багдановіча (трыялеты «Каліісь глядзеў на сонца я...», «С. Палуяну») | падумаць над пытаннем, у чым тоіцца своеасаблівасць духоўнага свету лірычнага героя, непадобнасць яго да тых, хто не разумее такога дзівака-чалавека. Падрыхтавацца да пісьмовай працы (гл. метадычны дапаможнік) |
| 23 | Сваімі словамі пра лірычныя жанры. Урок развіцця мовы | На матэрыяле праграмных твораў і тых, што рэкамендуюцца для пазакласнага чытання, пашырыць уяўленні вучняў пра грамадзянскую, філасофскую, пейзажную ды інтымную лірыку. На аснове паэтычных асацыяцый і творчага ўяўлення паспрабаваць стварыць невялікі ўласны верш або патлумачыць спалучанасць, нават неаддзельнасць тэмы, жанру і формы лірычнага твора пры параўнанні яго з іншым | Выбар гатовых рыфмаў з вершаў «Родныя вобразы» Якуба Коласа, «Возера» М. Багдановіча як падказка ці ўзор для творчай працы і самі тэксты (для праверкі вынікаў самастойнай работы). Тэкст верша В. Зуёнка «Любоў да Айчыны сваёй». Завяршэнне творчай працы |
| 24 | **III. Павольная плынь аповеду** Якуб Колас. «Хмарка». Сувязь «Казак жыцця» з фальклорнымі творамі | Пагрузіць вучняў у чароўны свет казкі. Абагульніць веды і ўяўленні школьнікаў пра адметнасць беларускіх народных казак, паданняў, легендаў, набытыя ў папярэдніх класах. Пазнаёміць з кнігай Якуба Коласа «Казкі жыцця» | Тэксты казак, легендаў, паданняў (на выбар настаўніка). Пытанні і заданні, змешчаныя ў вучэбным дапаможніку, пра фальклорныя творы. Прачытаць казку Якуба Коласа «Хмарка» |
| 25 | Якуб Колас. «Хмарка». Своеасаблівасць і прыгажосць твора | Пазнаёміць вучняў з асаблівасцю Коласавых «Казак жыцця» — спалучэннем казачнага і рэальнага, данесці да іх нацыянальны каларыт невялічкіх пазнавальна-мастацкіх твораў. Даць адчуць школьнікам лірызм, элегічнасць, гумар і афарыстычнасць казкі Якуба Коласа «Хмарка». | Тэкст казкі Якуба Коласа «Хмарка». Адказаць на пытанні, прапанаваныя ў вучэбным дапаможніку, пасля казкі Я. Коласа «Хмарка», асэнсаваць асаблівасць літаратурнай казкі ў параўнанні з народнай |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| | | Дапамагчы вучням асэнсаваць ідэйны змест казкі «Хмарка» ў адпаведнасці з эпіграфам, убачыць мастацкую своеасаблівасць і прыгажосць літаратурнай казкі ў параўнанні з народнай | |
| 26 | У. Караткевіч. «Паром на бурнай рацэ» (урывак з рамана «Нельга забыць»). Пісьменнік і гісторыя | Далучыць васьмікласнікаў да асобы пісьменніка, дапамагчы ім аб'ектыўна ўспрыняць гістарычныя падзеі, пакладзеныя ў аснову твора, і іх удзельнікаў, выявіць непасрэдныя чытацкія адносіны школьнікаў да падзей і герояў | Тэкст апавядання У. Караткевіча «Паром на бурнай рацэ». Перачытаць тэкст апавядання, скласці цытатны план як сродак хуткага прыпамінання сюжэта твора |
| 27 | У. Караткевіч. «Паром на бурнай рацэ». Характарыстыка галоўных герояў | У працэсе паглыбленай працы з тэкстам абагульніць назіранні вучняў за характарамі галоўных герояў, за матывамі іх паводзін | Тэкст апавядання «Паром на бурнай рацэ», пытанні вучэбнага дапаможніка. Скласці план аповеду пра аднаго з герояў апавядання |
| 28 | У. Караткевіч. «Паром на бурнай рацэ». Талент пісьменніка ў стварэнні мастацкіх вобразаў | Звярнуць увагу вучняў на ўдалае выкарыстанне пісьменнікам такіх сродкаў стварэння мастацкага вобраза, як партрэт, выказванні, паводзіны (учынкі), аўтарская характарыстыка | Тэкст апавядання. Адказаць на пытанні да твора, змешчаныя ў вучэбным дапаможніку. Паўтарыць тэарэтычны матэрыял пра тэму, ідэю і праблему мастацкага твора |
| 29 | У. Караткевіч. «Паром на бурнай рацэ». Гуманізм апавядання | Развіваць уменне вучняў вызначаць тэму і ідэю эпічнага твора, параўноўваць характары галоўных герояў. Замацоўваць уменне заўважаць у творы сутыкненне розных жыццёвых філасофій, бачыць супрацьлегласць жыццёвых пазіцый | Тэкст апавядання.<br>Яшчэ раз асэнсаваць тэкст, паразважаць пра супрацьлегласць пазіцый Горава і Пора-Леановіча.<br>Вывучыць урывак на памяць |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| 30 | Г. Далідовіч. «Губаты». «Мы ў адказе за тых, каго прыручылі» | Абмеркаваць з вучнямі маральную праблему ўзаемаадносін чалавека і прыроды (на аснове ведаў, набытых вучнямі ў папярэдніх класах), звярнуць увагу на самакаштоўнасць жыцця любой жывой істоты, душэўны стан і адчуванні герояў апавядання, матывы іх паводзін | Тэкст апавядання Г. Далідовіча «Губаты». Перачытаць твор, даць загалоўкі часткам апавядання, выбраць эпізоды, якія найбольш спадабаліся або ўсхвалявалі, і падрыхтаваць іх пераказ |
| 31 | Г. Далідовіч. «Губаты». «Без чалавечнасці не будзе і вечнасці» | Вучыць складаць план апавядання, заўважаць настраёвасць эпізодаў, сачыць за паводзінамі ласяняці ў лесе, даваць ацэнку паводзінам і ўчынкам людзей, ствараць звязны тэкст пры абмеркаванні і асэнсаванні трагічнага фіналу твора. Выхоўваць дабрыню і чалавечнасць, неабыякавасць да жыцця | Тэкст апавядання Г. Далідовіча «Губаты», пытанні і заданні, змешчаныя ў вучэбным дапаможніку. Напісаць міні-сачыненне або падрыхтаваць вуснае паведамленне на адну з тэм, прапанаваных у вучэбным дапаможніку |
| 32 | В. Быкаў. «Жураўліны крык». Чалавек і вайна | Пазнаёміць вучняў са звесткамі з біяграфіі В. Быкава, звярнуць увагу на асноўную тэму яго творчасці, на глыбокае веданне пісьменнікам псіхалогіі людзей на вайне. Фарміраваць першаснае ўяўленне пра жанравую своеасаблівасць твора, абмеркаваць уражанні вучняў ад прачытанай аповесці | Тэкст аповесці В. Быкава «Жураўліны крык», выказванне Я. Брыля пра Васіля Быкава. Перачытаць першую і другую часткі твора, зрабіць закладкі ў тэксце, дзе расказваецца пра герояў твора ўпершыню |
| 33 | В. Быкаў. «Жураўліны крык». Паводзіны чалавека ў экстрэмальнай сітуацыі | Засяродзіць увагу вучняў на майстэрстве пісьменніка даваць кароткую, але вельмі трапную характарыстыку героям; вучыць вызначаць ролю пейзажных замалёвак, бытавых дэталей у раскрыцці вобразаў твораў | Тэкст першых дзвюх частак аповесці В. Быкава «Жураўліны крык». Падрыхтаваць вусны пераказ эпізода, у якім расказваецца, як Віцька Свіст рыхтуе ежу. Некалькі вучняў могуць выканаць індывідуальныя заданні: пад- |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| | | | рыхтаваць паведамленні пра даваеннае жыццё герояў аповесці (6—12 часткі твора) |
| 34 | В. Быкаў. «Жураўліны крык». Раскрыццё ў трагічных абставінах характараў герояў | Паглыбіць уменні вучняў характарызаваць падзеі і герояў твора на аснове звестак пра іх даваеннае жыццё, выявіць ролю партрэта ў раскрыцці рыс характару літаратурных герояў | Тэкст аповесці В. Быкава «Жураўліны крык», перачытаць 14—18 раздзелы аповесці |
| 35 | В. Быкаў. «Жураўліны крык». Чалавек і лёс | Паназіраць за развіццём дзеяння ў эпічным творы з напружаным драматычным сюжэтам, удасканальваць уменне пераказваць асобныя эпізоды, у якіх найбольш ярка раскрываюцца характары герояў | Тэкст аповесці В. Быкава «Жураўліны крык». Заданні ў вучэбным дапаможніку. Падрыхтаваць пераказ асобных эпізодаў аповесці (на выбар вучняў) |
| 36 | В. Быкаў. «Жураўліны крык». Вытокі подзвігу і здрады герояў аповесці | Вучыць васьмікласнікаў вобразна мысліць, асэнсавана выказваць свае погляды на герояў, знаходзіць у тэксце мастацкія дэталі, важныя для паглыбленай характарыстыкі герояў, пашырыць уяўленні вучняў пра жанравую асаблівасць твора | Тэкст аповесці, пытанні і заданні ў вучэбным дапаможніку. Артыкул «Аповесць». Падумаць над сэнсам назвы твора. Перачытаць апошні ўрывак (са слоў «Глечык зажмурыўся...») і паразважаць, ці дапамагае трапная мастацкая паралель (Глечык-жуважравель) адчуць трагедыю Глечыка і зразумець веліч гэтага юнака |
| 37 | В. Быкаў. «Жураўліны крык». Праблема маральнага выбару на вайне | Дапамагчы вучням адчуць і зразумець трагічнасць і велічнасць лёсу герояў аповесці, падысці да асэнсавання ідэі твора праз характарыстыку найбольш прывабных, на думку вучняў, персанажаў, зразумець аўтарскую пазіцыю. Лірычны элемент у аповесці | Тэкст аповесці В. Быкава «Жураўліны крык», артыкул А. Адамовіча «Пра аповесць "Жураўліны крык"», змешчаны ў вучэбным дапаможніку. Падрыхтавацца да напісання сачынення па аповесці В. Быкава «Жураўліны крык» |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| 38 | Сачыненне па аповесці В. Быкава «Жураўліны крык». Творчая работа | Развіваць уменні вучняў складаць план пісьмовай працы, падбіраць цытаты ў якасці доказаў сваіх выказванняў, лагічна будаваць тэкст сачынення і рабіць адпаведныя высновы | Прыкладныя тэмы сачыненняў, прыведзеныя ў вучэбным дапаможніку, ці іншыя – на выбар настаўніка. Падрыхтавацца да ўрока пазакласнага чытання па эпічных творах (М. Стральцоў. «Адзін лапаць, адзін чунь»; У. Караткевіч. «Лісце каштанаў»; В. Іпатава. «За морам Хвалынскім» ці іншыя – на выбар вучняў і настаўніка) |
| 39 | Урок пазакласнага чытання па празаічных творах (на выбар вучняў) | Паглыбіць веды вучняў пра творчасць беларускіх пісьменнікаў-празаікаў, пра разнастайнасць тэм і праблем, якія ставяцца ў творах, пашырыць паняцце пра эпічныя жанры | Тэксты рэкамендаваных настаўнікам і выбраных вучнямі твораў. Падрыхтаваць вусны водгук на прачытаны празаічны твор, які найбольш спадабаўся |
| 40 | **IV. «Дзвюх плыняў вольнае зліццё»** «На гэту вудачку кахання папаў Машэка...» Сюжэт паэмы Янкі Купалы «Магіла льва» | Увесці ў чытацкую свядомасць вучняў паняцце «ліра-эпічныя жанры», стварыць уяўленне пра паэму Янкі Купалы «Магіла льва» як пра ліра-эпічны твор, выявіць непасрэдныя ўражанні ад паэмы, параўнаць яе з народным паданнем пра Магілёў | Тэкст паэмы. Дачытаць твор, скласці план або цытатны план па ўсім тэксце |
| 41 | «Што ёсць на свеце горш ад помсты?» Вобразы персанажаў у паэме «Магіла льва» | Паглыбіць уяўленні вучняў пра вобразы галоўных герояў паэмы – Машэкі і Наталькі. Прасачыць матывы паводзін Яго і Яе, паназіраць, наколькі па-мастацку сцісла і выразна перадаецца ў творы рух часу, змены ў душы і ў характары чалавека | Перачытаць паэму Янкі Купалы «Курган» і паспрабаваць вызначыць, што збліжае яе з паэмай «Магіла льва» |

*Працяг*

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| 42 | «Але не скрыці ад нікога нам крыўды цэлай грамады». Ідэя паэмы «Магіла льва» | Падвесці вучняў да разумення гістарычнага падтэксту нешчаслівага кахання Машэкі і Натальні, дапамагчы асэнсаваць гуманістычны змест твора | Падрыхтавацца да сачынення пра герояў паэмы і пра ролю лірычных адступленняў у творы |
| 43 | «Чаму ў гонар разбойніка Машэкі складаліся паданні і быў названы горад над Дняпром?» (Выразна рамантызаваныя вобразы галоўных герояў.) Урок творчай працы | Падагульніць веды вучняў пра сувязь паэмы з народным паданнем і пра яе відавочна літаратурны характар, вучыць адбіраць матэрыял для адказу на пытанні па ўсім творы | Тэксты твораў Янкі Купалы і «Паданні пра Магілёў».<br>Напісаць сачыненне па адной з тэм: 1. «Асілкам гэтакім ад роду Машэка быў...» 2. «Так страшным стала яго імя...» 3. «З Натальпай вышла гэтак-сама, Сама к бядзе пайшла сваёй...» 4. «Яго высокую магілу... "Магілай льва" народ назваў» |
| 44 | А. Куляшоў. «Маці» | Даць паняцце пра баладу, развіваць уменне суадносіць літаратурны твор з фальклорным, ацэньваць учынкі персанажаў. Заўважыць, як пераасэнсаваны ў творы народны выраз «акамянець з гора», як з дапамогай элементаў казачнасці выразна выяўляецца рэальная мацярынская самаахвярнасць | Тэкст балады, пытанні ў вучэбным дапаможніку.<br>Перачытаць тэкст балады «Маці», «Баладу аб чатырох заложніках», чытаць балады іншых аўтараў (П. Броўкі, Я. Сіпакова, П. Панчанкі і інш.) |
| 45 | Балада як ліра-эпічны жанр. Урок пазакласнага чытання | Пашырыць уяўленне вучняў пра літаратурныя балады, развіваць уменне вытлумачваць найбольш напружаныя моманты дзеяння ў баладзе гістарычнымі супярэчнасцямі, патрыятычнымі і гуманістычнымі памкненнямі герояў | Балада Я. Сіпакова «Кантрабанда».<br>Пазнаёміцца з баладай Ф. Шылера «Кубак» |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| 46 | Кандрат Крапіва. «Ганарысты Парсюк» | Раскрыць сэнс алегорыі ў байцы, пашырыць уяўленні вучняў пра аўтарскую і тэматычную разнастайнасць байкі як жанру літаратуры, развіваць уменне параўноўваць паміж сабой творы ліра-эпічнага жанру і самастойна працаваць з даведачнай літаратурай (артыкуламі ў вучэбным дапаможніку) | Тэкст байкі «Ганарысты Парсюк». Вывучыць на памяць.<br>Іншыя байкі К. Крапівы (на выбар настаўніка і вучняў).<br>Чытанне твора А. Вярцінскага «Мы, мёд і пчала» |
| 47 | Жыццё і побыт засцянковай шляхты ў камедыі Янкі Купалы «Паўлінка» | Пазнаёміць вучняў з асаблівасцямі драматургічнага роду. Наблізіць чытацкае ўспрыманне вучняў да рэалій побыту шляхты, дапамагчы зразумець узаемаадносіны паміж персанажамі камедыі ў працэсе ўступнага слова настаўніка пра гісторыю стварэння п'есы і чытання першага акта | Перачытаць першы акт камедыі, падрыхтаваць звязныя паведамленні ў адказ на пытанні тыпу: 1. З якой прычыны Паўлінка і Якім Сарока сустракаюцца ў сакрэце ад бацькоў? 2. Якія выказванні і паводзіны Паўлінкі сведчаць пра тое, што яна кахае маладога настаўніка? 3. Па якіх каларытных выслоўях Сцяпана Крыніцкага і Пранціся Пустарэвіча іх можна адрозніць паміж сабой? 4. Як ставіцца Паўлінка да сваіх бацькоў? |
| 48 | Проціпастаўленне ў п'есе Янкі Купалы «Паўлінка» шляхецкай пыхлівасці і народнай кемлівасці | Засяродзіць увагу вучняў на паводзінах і словах Адольфа Быкоўскага, выказваннях Сцяпана Крыніцкага, Паўлінкі, Пранціся Пустарэвіча ды іншых гасцей з тым, каб падкрэсліць пыхлівасць і духоўную абмежаванасць шляхты (у працэсе працы з тэкстам другога акта камедыі) | Знайсці ў тэксце другога акта п'есы неабходны матэрыял для характарыстыкі А. Быкоўскага, С. Крыніцкага і П. Пустарэвіча (па варыянтах на выбар вучняў) |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| 49 | Самабытныя народныя характары ў п'есе Янкі Купалы «Паўлінка». Сродкі стварэння камічнага | Пазнаёміць з галоўнымі сродкамі стварэння камічнага ў драматычным творы (набор камічных сітуацый, неаднолькавае разуменне сэнсу выказванняў рознымі персанажамі, выяўленне ўласнай абмежаванасці і інш.) і прасачыць, як такія сродкі дапамагаюць раскрыць характары Сцяпана Крыніцкага, Адольфа Быкоўскага і Пранціся Пустарэвіча | Скласці план характарыстыкі аднаго з разгледжаных на ўроку персанажаў камедыі, адабраць матэрыял для вуснага паведамлення: «Якой я ўяўляю Паўлінку?» |
| 50 | Вобраз Паўлінкі як увасабленне беларускага нацыянальнага характару | Удасканальваць уменне вучняў характарызаваць героя драматычнага твора па яго словах і паводзінах. Выяўляць рысы характару, найбольш уласцівыя Паўлінцы, у сітуацыях яе паразумення або канфлікту з бацькамі. Дапамагчы вучням асэнсоўваць вобраз Паўлінкі ў сімвалічным плане (як паралель Маладой Беларусі) | Падрыхтаваць вуснае або пісьмовае сачыненне-разважанне (на выбар настаўніка) па адной з тэм, сфармуляваных у выглядзе пытання: 1. Што з'яўляецца галоўнай перашкодай на шляху Паўлінкі да шчасця? 2. Якія рысы характару Паўлінкі дазваляюць атаясамліваць яе вобраз з вобразам Маладой Беларусі? |
| 51 | «Паўлінка» — класічны твор беларускай драматургіі і тэатра. Урок развіцця мовы | Дапамагчы вучням больш дэталёва ўявіць час і месца дзеяння, вясковы побыт беларускай засцянковай шляхты, засяродзіць увагу на трапнасці ўжывання народных выслоўяў у маўленні маладога настаўніка, Паўлінкі, Пустарэвіча, Альжбеты і іншых персанажаў; выявіць мастацкія сродкі стварэння характару А. Быкоўскага, які пры ўсёй сваёй пыхлівасці недалёка адышоў ад вяскоўцаў. Праз стварэнне мізан- | Прагляд спектакля ў тэатры. Удзел у пастаноўцы асобных з'яў або фрагментаў камедыі Янкі Купалы «Паўлінка» |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
| --- | --- | --- | --- |
| | | сцэн і выразнае чытанне па асобах паспрабаваць уявіць сабе характары герояў камедыі | |
| 52 | Спрытны Несцерка – герой беларускіх народных казак і драматургічных твораў (В. Вольскі. «Несцерка»). Урок пазакласнага чытання | Пазнаёміць вучняў з гісторыяй стварэння і пастановак народна-лубачнай сатырычнай камедыі, з фальклорнымі сюжэтамі пра Несцерку, асэнсаваць змест твораў беларускіх аўтараў пра шматгранны і каларытны беларускі нацыянальны характар, увасоблены ў вобразе Несцеркі | В. Вольскі. «Несцерка»; Г. Марчук. «Новыя прыгоды Несцеркі»; У. Бутрамееў. «Ізноў Несцерка» |
| 53 | Мастацтва ў жыцці чалавека: літаратура, тэатр, кіно, тэлебачанне | Аднавіць у чытацкай свядомасці вучняў змест п'ес Янкі Купалы, В. Вольскага, А. Дударава, спалучаючы пераказ зместу знаёмых твораў з разглядам афіш, партрэтаў персанажаў драматычных твораў, фрагментаў тэле- і кінаперадач. Падагульніць веды пра беларускую камедыю як літаратурны жанр і пра розныя варыянты пастаноўкі п'ес названых аўтараў на беларускай сцэне | Вусныя паведамленні і выказванні васьмікласнікаў. Пазнаёміць вучняў са спісам твораў, якія пажадана прачытаць летам |

## Беларуская літаратура

9 клас

(53 гадзіны: на вывучэнне твораў — 49 гадзін, на творчыя работы — 4 гадзіны)

*Рагойша, В. П.* Беларуская літаратура : вучэб. дапам. для 9-га кл. устаноў агул. сярэд. адукацыі з беларус. і рус. мовамі навучання / В. П. Рагойша [і інш.] ; пад рэд. В. П. Рагойшы. — Мінск : Нац. ін-т адукацыі, 2011.

| № урока і дата правядзення | Тэма ўрока | Мэты і задачы ўрока | Дамашняе заданне |
|---|---|---|---|
| **I. Уводзіны** (1 гадзіна) | | | |
| 1 | Літаратура як частка сусветнай культуры | Узнавіць веды вучняў пра літаратуру як спецыфічны від мастацтва; шляхам аналітычнай гутаркі раскрыць значэнне літаратуры як часткі сусветнай культуры; паказаць стадыяльнасць развіцця літаратуры; пазнаёміць з асноўнымі літаратурнымі напрамкамі;<br>развіваць аналітычнае мысленне вучняў;<br>фарміраваць пазнавальную цікавасць | Прачытаць артыкул вучэбнага дапаможніка і легенду «Дамавікова ўдзячнасць» |
| **II. Міфалогія – фальклор – літаратура** (1 гадзіна) | | | |
| 2 | Узнікненне мастацтва слова. Легенда «Дамавікова ўдзячнасць» | Раскрыць значэнне міфалогіі як першапачатковай «навуковай» карціны свету; на матэрыяле легенды «Дамавікова ўдзячнасць» паказаць значэнне фальклору як своеасаблівага падмурка для з'яўлення мастацтва слова; акцэнтаваць увагу на маральна-этычных і эстэтычных вартасцях беларускага фальклору; паглыбіць паняцце пра *міф, міфалогію, літаратуру* і *фальклор*;<br>развіваць навыкі аналізу мастацкага твора, сціслага пераказу; | Прадумаць адказы на пытанні, змешчаныя пасля артыкула вучэбнага дапаможніка.<br>Прачытаць па кнізе «Легенды і міфы Старажытнай Грэцыі» пра подзвігі Геракла |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| | | фарміраваць уяўленне пра фальклор як каштоўную культурную спадчыну | |
| **III. Беларуская літаратура і антычнасць** (1 гадзіна) | | | |
| 3 | Міфы і легенды Старажытнай Грэцыі і Рыма | Раскрыць тэматычную шматграннасць, гармонію зместу і формы ў антычным мастацтве і літаратуры, іх уплыў на сусветную культуру; праз асэнсаванне старажытнагрэчаскіх міфаў дапамагчы зразумець уяўленні і ідэалы Старажытнага свету; на прыкладзе вобраза Праметэя даць паняцце пра *вечны вобраз* у фальклоры і літаратуры; развіваць вуснае маўленне вучняў; узбагачаць лексічны запас;<br>спрыяць фарміраванню культурнага кругагляду вучняў | Падрыхтаваць вусны пераказ аднаго з біблейскіх сюжэтаў (на выбар) |
| **IV. Літаратура эпохі Сярэднявечча** (5 гадзін) | | | |
| 4 | Агульная характарыстыка літаратуры Сярэднявечча. Біблія – адзін з найвялікшых здабыткаў духоўнай культуры і выдатны помнік літаратуры | Даць паняцце пра літаратуру Сярэднявечча, асаблівасці яе жанравай сістэмы; паказаць вызначальны ўплыў Бібліі на развіццё мастацтва і літаратуры Сярэднявечча; развіваць навыкі ўспрымання лекцыйнага матэрыялу, вуснае маўленне, навыкі сціслага пераказу;<br>спрыяць узбагачэнню духоўнага свету вучняў | Прачытаць «Жыціе Еўфрасінні Полацкай».<br>Падрыхтаваць паведамленне (прэзентацыю) на тэму «Культура беларускіх земляў у XII ст.» (індывідуальныя заданні) |
| 5 | «Жыціе Еўфрасінні Полацкай» | Шляхам стварэння культурнага кантэксту, аналізу зместу твора ўзнавіць паслядоўнасць асноўных этапаў біяграфіі беларускай асветніцы, засяродзіўшы ўвагу на духоўным подзвігу Еўфрасінні; даць паняцце пра *жыціе* як жанр старажытнай літаратуры, паказаць адметнасць будовы твора, яе стройнасць, строгасць, лагічную завершанасць; | Прадумаць адказы на пытанні, змешчаныя ў вучэбным дапаможніку пасля тэксту «Жыція» |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| | | развіваць інтэлектуальныя здольнасці вучняў, фарміраваць разуменне часавай аддаленасці твораў старажытнасці, уменне рабіць «часавую папраўку»;<br>спрыяць выхаванню пачуцця павагі да асобы асветніцы, разумення хрысціянскіх каштоўнасцей | |
| 6 | Кірыла Тураўскі. «Словы», «Казанні», «Павучанні» | Правесці тэматычны кантроль па папярэдняй тэме;<br>пазнаёміць з жыццём і творчасцю Кірылы Тураўскага, звярнуўшы ўвагу на ідэю маральнага самаўдасканалення ў яго «Словах», высокі мастацкі ўзровень твораў красамоўства XII ст.; даць агульнае паняцце пра *слова*, *павучанне* як жанры старажытнай літаратуры;<br>развіваць уменне бачыць своеасаблівае мастацкае харāство твораў старажытнай літаратуры;<br>спрыяць выхаванню цікавасці і павагі да яркіх прадстаўнікоў нацыянальнай культуры | Прачытаць урывак з «Аповесці мінулых гадоў» пра Усяслава Полацкага. Звярнуць увагу на сцісласць, храналагічную паслядоўнасць падачы гістарычных фактаў |
| 7 | «Аповесць мінулых гадоў» (урывак пра Усяслава Полацкага) | Шляхам аналітычнай гутаркі раскрыць вобраз Усяслава ў старажытным усходнеславянскім летапісе; даць агульнае паняцце пра *летапіс*, звярнуць увагу на сцісласць і дакументальнасць апісання, на адметнасць паказу вобраза ў «Слове пра паход Ігаравы» і ў летапісе;<br>развіваць уменне суадносіць гістарычныя веды і змест вывучанага твора, уменне параўноўваць, супастаўляць, рабіць высновы;<br>выхоўваць пачуццё гонару і пашаны да славутых асоб нацыянальнай гісторыі | Індывідуальныя заданні «Культура Беларусі ў XVI ст.» (паведамленні, прэзентацыі на выбар вучняў) |
| 8 | Беларускі летапіс. «Летапіс вялікіх князёў літоўскіх» | Адзначыць ролю беларускіх летапісаў як вытокаў мастацкай прозы; абапіраючыся на міжпрадметныя сувязі з гісторыяй, паказаць значнасць асобы Вітаўта; | Падрыхтаваць паведамленні (прэзентацыі) пра жыццё і дзейнасць Ф. Скары- |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| | (урывак «Пахвала Вітаўту») | акцэнтаваць увагу на аўтарскай ацэнцы вобраза ў старабеларускім летапісе; паказаць эвалюцыю жанру *летапісу* (з'яўленне рыс мастацкай літаратуры);<br>развіваць уменне бачыць аўтарскую ацэнку героя; вуснае маўленне, уменне параўноўваць, аргументаваць свае думкі;<br>ствараць умовы для выхавання пачуцця пашаны да лёсу славутых асоб нацыянальнай гісторыі, разумення каштоўнасці твораў старажытнай літаратуры | ны (індывідуальныя заданні). Прачытаць прадмовы Ф. Скарыны |
| **V. Літаратура эпохі Адраджэння** (4 + 1) | | | |
| 9 | Агульная характарыстыка літаратуры эпохі Адраджэння. Францыск Скарына. Прадмовы да ўсёй Бібліі, кніг «Псалтыр», «Іоў» (урывак), «Юдзіф» (урывак) | Шляхам стварэння культурнага кантэксту (архітэктура, іканапіс, свецкі партрэт, скульптура) раскрыць асаблівасці эпохі і літаратуры Адраджэння, высокі ўзровень развіцця беларускай культуры ў XV–XVI стст., акцэнтаваць увагу на пашырэнні *гуманістычных* ідэй.<br>На матэрыяле жыцця і творчасці Ф. Скарыны паказаць найважнейшыя рысы рэнесансавага гуманізму (ідэал вольнай усебакова развітой, гарманічнай асобы, уяўленне пра самакаштоўнасць чалавечага жыцця, зварот да гуманістычных ідэалаў антычнага мастацтва), асветніцкую скіраванасць яго дзейнасці; раскрыць агульначалавечы змест прадмоў да ўсёй Бібліі, кніг «Псалтыр», «Іоў», «Юдзіф», значэнне дзейнасці Ф. Скарыны для беларускай і еўрапейскай культуры;<br>удасканальваць інтэлектуальныя здольнасці вучняў, уменне карыстацца даведачна-інфармацыйнай літаратурай, электроннымі носьбітамі інфармацыі; развіваць пазнавальную актыўнасць; пашыраць культурны кругагляд; | На матэрыяле зместу адной з прадмоў першадрукара даказаць, што Ф. Скарына – гуманіст і асветнік эпохі Адраджэння.<br>Вывучыць на памяць урывак з прадмовы да кнігі «Юдзіф» |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| | | спрыяць выхаванню патрыятычных пачуццяў вучняў, прывіваць пачуццё пашаны да асобы вялікага гуманіста і асветніка | |
| 10 | Сымон Будны. Прадмова да «Катэхізіса». Васіль Цяпінскі. Прадмова да «Евангелля» | Правесці тэматычны кантроль па тэме «Жыццё і творчасць Ф. Скарыны»;<br>абапіраючыся на гісторыка-культурныя веды вучняў пра рэфармацыйны рух на Беларусі ў XVI ст., пазнаёміць з асноўнымі фактамі жыцця і творчасці выдатных паслядоўнікаў Ф. Скарыны, звярнуць увагу на патрыятычную скіраванасць іх прадмоў;<br>праз каменціраванае чытанне ключавых урыўкаў прадмоў, асэнсаванне зместу твораў развіваць уменне бачыць асветніцкія, гуманістычныя ідэалы эпохі, развіваць навыкі ўспрымання лекцыйнага матэрыялу, вуснае маўленне вучняў, уменне разважаць і рабіць высновы;<br>спрыяць выхаванню нацыянальнай самасвядомасці, уплываць на выхаванне пачуцця грамадзянскага абавязку | Прачытаць паэму М. Гусоўскага «Песня пра зубра». Звярнуць увагу на асаблівасць вершаванага памеру, рытмічнага малюнка |
| 11 | Мікола Гусоўскі. Паэма «Песня пра зубра» | Пазнаёміць з кароткімі звесткамі пра жыццё і творчасць М. Гусоўскага, гісторыяй стварэння паэмы;<br>высветліўшы ўзровень першапачатковага разумення паэмы, звярнуць увагу на сістэму поглядаў паэта-гуманіста, на ролю мастацтва, прызначэнне мастака, адлюстраваную ў прадмове, стройнасць кампазіцыі, цэльнасць зместу, сістэму вобразаў твора;<br>удасканальваць навыкі аналізу ліра-эпічнага твора, уменне бачыць узаемасувязь частак твора; развіваць звязнае маўленне;<br>спрыяць фарміраванню сістэмы гуманістычных каштоўнасных арыентацый вучняў | Прадумаць адказы на пытанні:<br>1. Вобраз Вітаўта ў паэме.<br>2. Сімвалічнае значэнне вобраза зубра ў творы.<br>Вывучыць на памяць урывак з «Песні пра зубра» (на выбар настаўніка) |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| 12 | Мікола Гусоўскі. Паэма «Песня пра зубра» | Засяродзіць увагу на вобразнай сістэме твора (вобразы аўтара, Вітаўта, зубра, Радзімы), праблематыцы твора; удасканальваць уменні характарыстыкі вобраза, бачыць аўтарскую пазіцыю; развіваць вуснае маўленне, уменне параўноўваць, аргументаваць свае думкі; ствараць умовы для фарміравання цікавасці, пашаны да лёсу славутых асоб нацыянальнай гісторыі | Падрыхтаваць вуснае выказванне па адной з тэм: «Няхай раскажа час мінулы» (з апорай на атрыманыя веды пра славутых дзеячаў эпохі Адраджэння); «Вобраз князя Вітаўта ў "Пахвале" і ў "Песні пра зубра"» ці на іншую тэму |
| 13* | Творчая работа. Навучальнае сачыненне-разважанне па адной з прапанаваных тэм: «Няхай раскажа час мінулы»; «Мінулае вучыць нас, як жыць сёння»; «Вобраз Вітаўта ў "Пахвале" і ў паэме "Песня пра зубра"» ці інш. | Выпрацоўваць уменне суадносіць тэму, мэту, аб'ём творчай работы, пісьмова разгортваць пэўны тэзіс, разумець важнасць кампазіцыйнай стройнасці і завершанасці сачынення-разважання; развіваць літаратурную і лінгвістычную кампетэнцыю вучняў, навыкі самастойнай працы, творчы патэнцыял; развіваць уменне суадносіць вобразы, характары, падзеі мінулага з сучасным жыццём, уласным жыццёвым вопытам; выхоўваць пачуццё адказнасці, пашаны да гістарычнага мінулага сваёй краіны | Самастойнае чытанне: У. Караткевіч. «Подзвіг Скарыны»; А. Пісьмянкоў. «Дума Вітаўта»; зб. «Карона Вітаўта Вялікага» (на выбар) |
| **VI. Барока. Класіцызм. Асветніцтва** (1 гадзіна) | | | |
| 14 | Асаблівасці стылю барока. Барока ў беларускай літаратуры і мастацтве | Падчас кароткай гутаркі высветліць, які з самастойна прачытаных твораў выклікаў цікавасць; шляхам стварэння культурнага кантэксту (архітэктура, жывапіс, музыка) на матэрыяле аднаго з твораў, прапанаваных праграмай (эпіграмы Андрэя Рымшы, вершы | Прачытаць паэму «Энеіда навыварат»; звярнуць увагу на моўныя асаблівасці твора сярэдзіны XIX ст. |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| | | Сімяона Полацкага, «Трэнас» Мялеція Смятрыцкага), пазнаёміць вучняў з адметнымі рысамі стылю *барока*; даць паняцце пра *палемічную літаратуру*; звярнуць увагу на адсутнасць умоў для развіцця класіцызму ў беларускай літаратуры гэтага перыяду;<br>развіваць навыкі слухання і канспектавання лекцыйнага матэрыялу, узбагачаць слоўнікавы запас вучняў, літаратурны і культурны кругагляд;<br>уплываць на фарміраванне духоўнага свету вучняў | |
| **VII. Ад старажытнай да новай беларускай літаратуры** (2 гадзіны) | | | |
| 15 | Беларуская літаратура ў канцы XVIII — пачатку XIX ст. | Паказаць спецыфічныя ўмовы існавання беларускай літаратуры ў гэты перыяд, звярнуць увагу на пераважна ананімны характар бытавання твораў, моўную адметнасць твораў, на развіццё рэалістычных тэндэнцый, зварот пісьменнікаў да вуснай народнай творчасці; пазнаёміць з імёнамі Я. Чачота, І. Дамейкі і інш.;<br>развіваць навыкі дыялагічнай і маналагічнай мовы, уменне фармуляваць пытанні;<br>спрыяць фарміраванню цікавасці да літаратурнай спадчыны | Выпісаць у літаратурны сшытак з тэксту паэмы «Энеіда навыварат» назвы нацыянальных страў беларусаў. Знайсці тлумачэнні невядомых назваў у энцыклапедыі «Этнаграфія Беларусі» ці ў Вікіпедыі |
| 16 | Паэма «Энеіда навыварат» | Прааналізаваць асобныя ўрыўкі з паэмы, звярнуўшы ўвагу на жыццёвую пераканаўчасць вобразаў, прыёмы камічнай абмалёўкі персанажаў, зварот аўтара да жанру *бурлеска* і *травесці*, асаблівасці мовы твора (спалучэнне высокага стылю і прастамоўнай лексікі, вульгарызмаў);<br>пашыраць культурны і літаратурны кругагляд вучняў, удасканальваць навыкі аналізу мастацкага твора;<br>выхоўваць цікавасць да этнаграфічнай і моўнай спадчыны, разуменне яе каштоўнасці | Прачытаць паэму А. Міцкевіча «Гражына» |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| **VIII. Рамантызм як вядучы літаратурны напрамак** (4 + 1) | | | |
| 17 | Рамантызм у еўрапейскай і беларускай літаратурах канца XVIII — першай паловы XIX ст. | Акрэсліць сінтэтычны характар беларускай літаратуры гэтага перыяду, перадумовы ўзнікнення рамантызму ў еўрапейскім і беларускім мастацтве слова, даць паняцце пра *рамантызм* і яго адметныя рысы; пазнаёміць з асноўнымі звесткамі пра жыццё і творчасць А. Міцкевіча; звярнуць увагу на сувязь творчасці А. Міцкевіча з беларускай літаратурай;<br>узбагачаць лексічны запас, развіваць навыкі супастаўлення твораў розных літаратур, звязнае маўленне вучняў;<br>уплываць на фарміраванне духоўнага свету вучняў, выхоўваць разуменне каштоўнасці індывідуальнага свету чалавека | Аргументаваць сцверджанне: «Паэма А. Міцкевіча «Гражына» — рамантычны твор» |
| 18 | Адам Міцкевіч. Паэма «Гражына» | Шляхам аналізу твора паглыбіць паняцце пра рамантызм, на прыкладзе вобраза Гражыны акрэсліць асноўныя рысы *рамантычнага героя*; падвесці да разумення асноўнай думкі твора, вызначыць кола праблем, звярнуць увагу на жанравыя асаблівасці твора (паэма-балада);<br>удасканальваць навыкі аналізу ліра-эпічнага твора, уменне параўноўваць герояў, развіваць вуснае маўленне вучняў;<br>спрыяць выхаванню пачуцця грамадзянскага абавязку | Прачытаць апавяданні Я. Баршчэўскага «Шляхціц Завальня» і «Белая сарока».<br>Падрыхтаваць паведамленне пра асобу Я. Баршчэўскага (індывідуальнае заданне) |
| 19 | Ян Баршчэўскі. Апавяданні «Шляхціц Завальня», «Белая сарока» | Пазнаёміць з кароткімі звесткамі пра жыццё і творчасць Я. Баршчэўскага, засяродзіўшы ўвагу на галоўным творы пісьменніка — «Шляхціц Завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданнях»; прааналізаваць вобраз пана Завальні, вызначыць яго мастацкую ролю; | Прачытаць апавяданні Я. Баршчэўскага «Плачка», «Сын Буры». Падабраць цытаты для характарыстыкі вобразаў |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| | | абапіраючыся на паняцці алегорыі і алюзіі, раскрыць сэнс вобраза Белай сарокі;<br>развіваць уменне аналізу эпічнага твора, шляхам падбору цытат падводзіць да разумення падтэксту, раскрываць алегарычны сэнс вобразаў;<br>уплываць на фарміраванне нацыянальнай самасвядомасці | |
| 20 | Ян Баршчэўскі. Апавяданні «Плачка», «Сын Буры» | Засяродзіць увагу на алегарычным сэнсе вобразаў Плачкі і Сына Буры; падвесці да разумення павучальнага зместу твораў; акрэсліць асветніцкую скіраванасць твораў, рамантычнасць сюжэтаў і вобразаў;<br>удасканальваць уменне аналізу эпічнага твора, развіваць літаратурную кампетэнцыю;<br>уплываць на фарміраванне каштоўнасных арыентацый вучняў | Прадумаць адказы на пытанні:<br>1. Алегарычны сэнс вобраза Белай сарокі.<br>2. Алегарычны сэнс вобразаў Плачкі і Сына Буры |
| 21* | Творчая работа. Напісанне сачынення-разважання па апавяданнях Яна Баршчэўскага | Скіраваць увагу вучняў на асэнсаванне і выбар тэмы творчай работы («Алегарычны сэнс вобраза Белай сарокі»; «Алегарычны сэнс вобразаў Плачкі і Сына Буры»; «Ля запаленай свечкі» і інш.);<br>удасканальваць уменні лагічна, звязна, доказна разгортваць пэўны тэзіс, выкарыстоўваць неабходныя цытаты для пацвярджэння пэўнага аргумента;<br>развіваць творчае ўяўленне, лагічнае мысленне | Прачытаць паэму «Тарас на Парнасе» |
| **IX. Па шляху сінтэзу: сентыменталізм, рамантызм, рэалізм** (5 гадзін) | | | |
| 22 | Канстанцін Вераніцын. Паэма «Тарас на Парнасе» | Шляхам аналізу тэксту падвесці да разумення паэмы як твора на літаратурную тэму, у якім аўтар сцвярджае ідэю *народнасці літаратуры*; падвесці да разумення рэаліс- | Выпісаць з тэксту прачытанай паэмы назвы нацыянальных страў XIX ст. |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| | | тычнага і сімвалічнага аспектаў вобраза Тараса; акцэнтаваць увагу на этнаграфічнай каштоўнасці твора, яго лексічным багацці;<br>выхоўваць пачуццё цікавасці і павагі да літаратурнай і этнаграфічнай спадчыны свайго народа | Індывідуальныя заданні: па энцыклапедычным даведніку «Этнаграфія Беларусі» знайсці тлумачэнні невядомых назваў |
| 23 | Тарас Шаўчэнка. Вершы «Думка», «Садок вішнёвы каля хаты»; паэма «Цары» (урывак) | Падкрэсліць ролю асобы Т. Шаўчэнкі ва ўкраінскай культуры; паказаць сувязі ўкраінскага кабзара з Беларуссю; праз асэнсаванне вершаў падвесці да разумення народна-паэтычных вытокаў, грамадзянска-патрыятычнай сутнасці яго паэзіі;<br>удасканальваць уменні аналізу лірычных твораў, характарызаваць лірычнага героя;<br>выхоўваць пачуццё павагі да літаратурнай спадчыны іншых народаў | Па вучэбным дапаможніку пазнаёміцца з жыццёвым і творчым шляхам В. Дуніна-Марцінкевіча. Прачытаць камедыю «Пінская шляхта» |
| 24 | Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч. Камедыя «Пінская шляхта» | Засяродзіць увагу на асноўных фактах жыцця і творчасці В. Дуніна-Марцінкевіча, падкрэсліўшы значнасць асобы пачынальніка беларускай драматургіі ў беларускай літаратуры XIX ст.; адзначыць жанравыя асаблівасці твора, даць паняцце пра *фарс* і *вадэвіль* як камедыйныя жанры; высветліць першапачатковае разуменне зместу твора; ахарактарызаваць сістэму вобразаў п'есы; вучыць разумець сутнасць канфлікту ў драматычным творы;<br>развіваць уменне аналізу драматычнага твора, звязнае маўленне вучняў;<br>ствараць умовы для выхавання нацыянальнай самасвядомасці | Падрыхтаваць цытатныя характарыстыкі вобразаў станавога прыстава Кручкова і яго памочніка Пісулькіна |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| 25 | Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч. Камедыя «Пінская шляхта». Выкрыццё чыноўніцтва ў п'есе. Вобраз Кручкова, яго тыповасць | Засяродзіць увагу на характарыстыцы вобраза Кручкова і яго памочніка Пісулькіна, прааналізаваць маналогі Кручкова, асаблівасці мовы персанажа; падчас аналітычнай гутаркі сфармуляваць асноўныя праблемы п'есы; звярнуць увагу на майстэрства драматурга ў разгортванні інтрыгі, стварэнні камічнага эфекту, сатырычных вобразаў-тыпаў;<br>удасканальваць уменне аналізу вобраза, чытання па ролях, уменне карыстацца тэарэтычнымі паняццямі, неабходнымі пры аналізе драматычнага твора (рэпліка, аўтарская рэмарка, маналог, дыялог);<br>ствараць умовы для развіцця эмацыянальнай сферы падлеткаў | Прадумаць адказ на пытанне: «Асноўныя праблемы п'есы "Пінская шляхта"».<br>Індывідуальнае заданне: падрыхтаваць паведамленне на тэму «Сцэнічнае ўвасабленне п'есы» |
| 26 | Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч. Камедыя «Пінская шляхта». Духоўная абмежаванасць засцянковай шляхты | Правесці тэматычны кантроль па змесце п'есы.<br>Шляхам аналізу вобразаў Ціхона Пратасавіцкага, Івана Цюхай-Ліпскага, Куторгі, Грышкі, Марысі вызначыць адмоўныя рысы шляхты, якія сталі аб'ектам сатыры;<br>удасканальваць уменне аналізу драматычнага твора, вучыць разумець спецыфіку драмы як роду літаратуры;<br>ствараць умовы для развіцця артыстычных здольнасцей, творчага патэнцыялу вучняў | Прадумаць адказы на абагульняючыя пытанні па п'есе, прапанаваныя настаўнікам.<br>Прачытаць тэкст газеты «Мужыцкая праўда» (№ 2) |
| **X. Рэалізм як літаратурны напрамак. Захаванне тэндэнцый рамантызму** (5 гадзін) | | | |
| 27 | Кастусь Каліноўскі. Газета «Мужыцкая праўда» (№ 2); верш «Марыська чарнаброва, галубка мая» | Звярнуць увагу на спалучэнне рэалістычных і рамантычных рыс у беларускай літаратуры другой паловы XIX ст.; пазнаёміць з жыццём і творчасцю К. Каліноўскага, акцэнтаваць увагу на яго вызначальнай ролі ў станаўленні беларускамоўнай *публіцыстыкі*; прааналізаваць змест «Мужыцкай праўды», верш «Марыська чарнаброва, галубка мая»; акрэсліць рысы асобы аўтара ў творах; | Прачытаць эсэ У. Караткевіча «Гэта было 10 сакавіка 1864 года».<br>Прачытаць па вучэбным дапаможніку пра жыццёвы і творчы шлях Ф. Багушэвіча |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| | | развіваць уменне вызначаць асноўныя мастацкія рысы публіцыстыкі як віду літаратуры; развіваць навыкі канспектавання;<br>на прыкладзе жыцця і дзейнасці К. Каліноўскага спрыяць выхаванню актыўнай грамадзянскай пазіцыі | |
| 28 | Францішак Багушэвіч. Прадмовы да зборнікаў «Дудка беларуская» і «Смык беларускі» | Дапамагчы асэнсаваць складанасць гісторыка-культурных умоў, у якіх ішло станаўленне творчасці Ф. Багушэвіча, адраджэнскі змест і пафас яго прадмоў; звярнуць увагу на ўзмацненне рэалістычных тэндэнцый у беларускай літаратуры другой паловы XIX ст.;<br>развіваць аналітычнае мысленне вучняў, уменне супастаўляць і рабіць высновы;<br>на прыкладзе жыцця і творчасці пісьменніка ствараць умовы для выхавання грамадзянскай пазіцыі | Прачытаць вершы «Мая дудка», «Ахвяра», «Хмаркі», звярнуць увагу на моўныя асаблівасці твораў |
| 29 | Францішак Багушэвіч. Вершы «Мая дудка», «Ахвяра», «Хмаркі» | Дапамагчы зразумець адметны стыль паэзіі Ф. Багушэвіча; раскрыць алегарычны сэнс вобраза дудкі, ахарактарызаваць змены інтанацыйнага малюнка ў вершы «Мая дудка»; акрэсліць аўтарскі эстэтычны ідэал у вершы «Ахвяра»; падвесці да разумення алегарычнага сэнсу верша «Хмаркі», адзначыць фальклорную аснову твора;<br>удасканальваць навыкі аналізу лірычных твораў, развіваць вуснае маўленне вучняў;<br>ствараць умовы для фарміравання духоўна-маральных каштоўнасцей падлеткаў | Прачытаць паэму «Кепска будзе!», звярнуць увагу на этапы жыцця Аліндаркі, вобраз айчыма |
| 30 | Францішак Багушэвіч. Паэма «Кепска будзе!» | Высветліць першаснае разуменне зместу твора, аднавіць змест шляхам сціслага пераказу; вызначыць рысы нацыянальнага характару (вобразы айчыма, Аліндаркі), падвесці да разумення гуманістычнага ідэалу аўтара, кола праблем твора, ролі кантрасных малюнкаў; даць | Падрыхтаваць адказ на пытанне: «Роля кантрасту (антытэзы) у творах Ф. Багушэвіча. Вывучыць на памяць верш «Хмаркі» |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| | | паняцці пра *рэалістычнае адлюстраванне жыцця ў літаратуры*; *народнасць літаратуры*;<br>удасканальваць вуснае маўленне, уменне адбіраць найбольш істотныя эпізоды, якія дазваляюць зразумець праблематыку твора;<br>садзейнічаць фарміраванню маральных каштоўнасных арыентацый | |
| 31 | Янка Лучына. Верш «Роднай старонцы»; паэма «Паляўнічыя акварэлькі з Палесся» | Правесці тэматычны кантроль па творчасці Ф. Багушэвіча;<br>пазнаёміць з асобай Я. Лучыны; адзначыць асветніцкія погляды паэта; шляхам аналізу асобных урыўкаў з паэмы «Паляўнічыя акварэлькі» падвесці да разумення галоўнай тэмы твора (чалавек і прырода), ролі ў развіцці эпічных традыцый у беларускай літаратуры;<br>развіваць літаратурную кампетэнцыю вучняў, пашыраць кругагляд;<br>выхоўваць пачуццё павагі да творцаў нацыянальнай літаратуры | Індывідуальныя заданні:<br>1. Падрыхтаваць паведамленне пра асобу і творчасць Лесі Украінкі.<br>2. Падрыхтаваць паведамленне пра творчасць Яна Райніса.<br>3. Падрыхтаваць паведамленне (прэзентацыю) пра асобу Цёткі |
| **XI. Шляхі развіцця беларускай літаратуры ў пачатку XX ст.** (20 + 2) | | | |
| 32 | Сусветная і беларуская літаратура ў пачатку XX ст. | Акрэсліць грамадска-культурную сітуацыю пачатку XX ст.; паказаць вызначальную ролю газет «Наша доля» і «Наша ніва» ў развіцці літаратуры; пазнаёміць ■ разнастайнасцю *літаратурных кірункаў* і плыняў у сусветнай і беларускай літаратуры, з іменамі найбольш яркіх прадстаўнікоў мастацтва слова гэтага перыяду, падкрэсліць значнасць постаці Алаізы Пашкевіч (Цёткі) у грамадска-культурным кантэксце; | Прачытаць вершы Цёткі «Мае думкі», «Суседзям у няволі», «Вера беларуса», «Мора» |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| | | удасканальваць уменне вылучаць галоўнае, уменне карыстацца даведачна-інфармацыйнай літаратурай, электроннымі носьбітамі інфармацыі;<br>выхоўваць культуру слухання, дапытлівасць, назіральнасць | |
| 33 | Цётка. Вершы «Мае думкі», «Суседзям у няволі», «Вера беларуса», «Мора» | Пазнаёміць з біяграфіяй паэткі-рэвалюцыянеркі, прадаўжальніцы ідэй Ф. Багушэвіча; вызначыць пафас, накіраванасць, рамантычна-сімвалічную вобразнасць яе вершаў, абумоўленую грамадзянска-патрыятычнай пазіцыяй аўтаркі;<br>удасканальваць навыкі аналізу лірычных твораў: вызначаць асаблівасці рытміка-інтанацыйнага малюнка, *паэтычнага сінтаксісу*, бачыць падпарадкаванасць мастацкай сістэмы асноўнай думцы твора;<br>на матэрыяле жыцця і творчасці Цёткі выхоўваць мэтанакіраванасць, актыўную жыццёвую пазіцыю | Прачытаць апавяданне Ядвігіна Ш. «Дуб-дзядуля» |
| 34 | Ядвігін Ш. Апавяданне «Дуб-дзядуля» | Пазнаёміць з асноўнымі фактамі жыцця і творчасці Ядвігіна Ш., паказаць адметнасць постаці пісьменніка ў беларускай прозе пачатку XX ст.; прааналізаваць апавяданне «Дуб-дзядуля», вызначыць ролю *персаніфікацыі*, раскрыць іншасказальны сэнс вобразаў, філасофскі змест твора, асаблівасці *стылю*, творчай манеры, адзначыць прытчавую аснову апавядання;<br>развіваць навыкі выбарачнага пераказу, аналізу эпічных твораў малой формы, уменне вызначаць прыметы стылю;<br>садзейнічаць выхаванню цікавасці да творчай індывідуальнасці пісьменніка | Падрыхтаваць матэрыялы пра жыццёвы і творчы шлях Я. Купалы. Прачытаць вершы, прапанаваныя праграмай |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| 35 | Янка Купала. Жыццёвы і творчы шлях. Лірыка | Дапамагчы асэнсаваць умовы жыцця і фарміравання творчай індывідуальнасці Я. Купалы; шляхам аналізу вершаў акрэсліць эстэтычнае крэда песняра, адзначыўшы зніταванасць паэтавага лёсу з жыццём народа; акцэнтаваць увагу на спалучэнні ў вершах глыбокай грамадзянскасці, публіцыстычнасці і тонкага лірызму («Мая малітва», «Роднае слова», «У вырай!», «На сход!», «Паязджане»); раскрыць ідэю вечнасці жыцця, кахання, гармоніі чалавека і прыроды ў вершы «Явар і каліна»; паглыбіць паняцце пра *жанры лірыкі*;<br>фарміраваць уменні і навыкі самастойнай працы з біяграфічным матэрыялам, адбору і сістэматызацыі звестак; развіваць уменне публічнага выступлення, навыкі аналізу лірычных твораў;<br>спрыяць выхаванню нацыянальнай самасвядомасці | Вывучыць на памяць верш «Явар і каліна».<br>Прачытаць паэму «Бандароўна» |
| 36 | Янка Купала. Паэма «Бандароўна» | Шляхам аналізу зместу паэмы-балады паказаць фальклорную першакрыніцу твора, вызначыць сутнасць канфлікту, разгледзець вобразы-антыподы, падвесці да высновы пра рамантычную аснову твора; параўнаць вобраз Бандароўны і Гражыны;<br>развіваць навыкі параўнальнай характарыстыкі герояў, удасканальваць вуснае маўленне вучняў;<br>фарміраваць сістэму маральных каштоўнасных арыентацый, выхоўваць пачуццё уласнай годнасці | Прачытаць першы і другі акты драмы «Раскіданае гняздо». Прааналізаваць прычыны трагічнага фіналу Лявона Зябліка |
| 37 | Янка Купала. Драма «Раскіданае гняздо» | Высветліць першаснае ўспрыманне твора; пазнаёміць з аўтабіяграфічнымі фактамі, пакладзенымі ў аснову драмы; прааналізаваць сістэму вобразаў п'есы, дапамагчы асэнсаваць асаблівасць канфлікту; | Дачытаць п'есу. Звярнуць увагу на вобраз Сымона. Падабраць цытаты |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| | | удасканальваць уменні аналізу драматычнага твора, разуменне спецыфікі драмы як роду літаратуры; развіваць вуснае маўленне, аналітычнае мысленне; спрыяць выхаванню пачуцця павагі да драматургічнай класічнай спадчыны | |
| 38 | Янка Купала. Драма «Раскіданае гняздо». Пошукі маладым пакаленнем шляхоў вызвалення Бацькаўшчыны | Прасачыць развіццё драматычных калізій у творы; прааналізаваць паводзіны старэйшага і маладога пакаленняў у безвыходнай сітуацыі; сістэму вобразаў і прадметаў-сімвалаў; развіваць уменне весці дыскусію, падбіраць патрэбныя аргументы, адстойваць сваю пазіцыю, рабіць высновы; выхоўваць культуру ўзаемаадносін, культуру дыскусіі | Прадумаць адказ на пытанне: «Сэнс вобраза Вялікага сходу ў драме "Раскіданае гняздо"» |
| 39 | Янка Купала. Драма «Раскіданае гняздо». Ідэйны сэнс вобраза Вялікага сходу. Сімвалічнасць назвы | Шляхам паглыблення ў змест драмы дапамагчы зразумець ідэйны сэнс вобраза Вялікага сходу як аўтарскую канцэпцыю тагачаснага становішча і будучыні Беларусі; падвесці да разумення сімвалічнай асновы драмы; звярнуць увагу на вобраз раскіданага гнязда ў творчасці папярэднікаў (Я. Баршчэўскі. «Плачка»); развіваць уменне разумець падтэкст у драматычным творы, узбагачаць слоўнікавы запас вучняў; спрыяць выхаванню грамадзянскай самасвядомасці, патрыятычных пачуццяў | Прадумаць адказы на абагульняючыя пытанні па творчасці Я. Купалы, прапанаваныя настаўнікам |
| 40 | Абагульняючы ўрок па творчасці Янкі Купалы | Абагульніць веды вучняў па драме «Раскіданае гняздо», дапамагчы зразумець *аўтарскую пазіцыю ў п'есе*; праверыць ступень засваення творчасці Я. Купалы; акцэнтаваць увагу на шматграннасці таленту, разнастайнасці творчай спадчыны вялікага песняра; развіваць уменні і навыкі вуснага выказвання па пэўнай праблеме, літаратурную кампетэнцыю вучняў; | Падрыхтаваць вуснае выказванне на адну з тэм па творчасці Я. Купалы: «Я буду маліцца і сэрцам і думамі...»; «Трэба праўды шукаць не тапаром, а розумам»; «Гэты твор Я. Купалы |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| | | ствараць умовы для выхавання павагі да выдатных асоб нацыянальнай літаратуры, цікавасці да нацыянальнай класікі | я параіў бы прачытаць кожнаму» і інш. |
| 41* | Творчая работа. Сачыненне-разважанне па творчасці Янкі Купалы | Абагульніць веды вучняў па творчасці Я. Купалы;<br>выпрацоўваць уменне самастойна абагульняць думкі, разважанні ў пісьмовай форме; развіваць літаратурна-лінгвістычную кампетэнцыю;<br>выхоўваць культуру мыслення, чуйнасць да мастацкага слова | Прачытаць вершы Я. Коласа «Не бядуй!», «Беларусам», «Родныя вобразы», «Першы гром» |
| 42 | Якуб Колас. Жыццёвы і творчы шлях. Лірыка | Пазнаёміць з асноўнымі этапамі жыцця і творчасці Я. Коласа, паказаць умовы фарміравання яго таленту; на прыкладзе вершаў раскрыць талент Коласа-пейзажыста, звярнуць увагу на элегічнае і жыццесцвярджальнае ў яго лірыцы; прааналізаваць верш «Родныя вобразы», адзначыўшы прыцягальнасць мастацкіх вобразаў твора;<br>удасканальваць уменне вылучаць галоўнае, суадносіць біяграфію і творчасць мастака слова, уменне аналізу лірычных твораў, бачыць узаемасувязь кампанентаў верша;<br>выхоўваць пачуццё любові да роднага слова, павагі да творчай спадчыны класіка нацыянальнай літаратуры | Прачытаць раздзелы з паэмы «Новая зямля» (на выбар настаўніка), якія давалі б уяўленне пра змест і сэнс паэмы. Вывучыць на памяць верш «Родныя вобразы» |
| 43 | Якуб Колас. Паэма «Новая зямля». Творчая гісторыя. Народны побыт і прырода ў творы | Пазнаёміць з *творчай гісторыяй* паэмы, яе аўтабіяграфічнай асновай, жанрава-кампазіцыйнымі асаблівасцямі (роля лірычных адступленняў); на матэрыяле прачытаных раздзелаў дапамагчы раскрыць прыгажосць карцін народнага побыту, прыроды, вызначыць іх ролю, адзначыць імкненне аўтара да паэтызацыі штодзённага жыцця;<br>узбагачаць слоўнікавы запас вучняў; развіваць пазнавальную цікавасць; | Вывучыць на памяць урывак з паэмы «Новая зямля» (на выбар настаўніка).<br>Падрыхтаваць вуснае паведамленне па адной з тэм: «Сямейная і побытавая культура беларусаў», «Народнае свята ў паэме», «Тра- |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| | | спрыяць выхаванню эстэтычнага густу, чуйнасці да прыгожага | гедыя Міхала» (на матэрыяле прачытаных раздзелаў) |
| 44 | Якуб Колас. «Новая зямля». Філасофская ідэя зямлі і волі ў творы | Шляхам заглыблення ў змест прачытаных раздзелаў прааналізаваць сістэму вобразаў твора, адзначыўшы станоўчыя рысы нацыянальнага характару, увасобленыя ў вобразах Міхала, Ганны, Антося, звярнуцца да трагедыі галоўнага героя, пазбаўленага права ўласнасці на сваю зямлю, на плён сваёй працы; падвесці вынікі разгляду твора, адзначыўшы ролю паэмы-эпапеі ў гісторыі беларускай літаратуры;<br>удасканальваць навыкі выразнага чытання, развіваць навыкі аналітычнага мыслення, уменне аналізу ліра-эпічнага твора;<br>уплываць на фарміраванне маральных каштоўнасных арыентацый падлеткаў | Прачытаць першыя дзесяць раздзелаў аповесці Я. Коласа «У палескай глушы» (з трылогіі «На ростанях»). Падабраць цытаты, якія характарызуюць асобу галоўнага героя |
| 45 | Якуб Колас. Трылогія «На ростанях». Творчая гісторыя. Праблематыка | Высветліць першаснае разуменне зместу прачытанага; пазнаёміць з творчай гісторыяй трылогіі, яе аўтабіяграфічнай асновай; даць паняцце *прататыпа*; акрэсліць аўтарскую ідэйна-мастацкую задачу: паказаць складаныя духоўныя пошукі нацыянальнай інтэлігенцыі ў пачатку XX ст.; прааналізаваць найбольш яркія эпізоды, якія раскрываюць рысы асобы галоўнага героя;<br>удасканальваць навыкі аналізу эпічнага твора, развіваць уменне суаднасіць біяграфічныя звесткі пра аўтара са зместам твора, развіваць вуснае маўленне вучняў;<br>выхоўваць цікавасць да асэнсавання вечных праблем жыцця | Прачытаць раздзелы 11—25 аповесці «У палескай глушы». Звярнуць увагу на вобразы мясцовай інтэлігенцыі |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| 46 | Якуб Колас. Аповесць «У палескай глушы». Лабановіч і мясцовая інтэлігенцыя | Шляхам аналізу прачытаных раздзелаў засяродзіць увагу на вобразах інтэлігентаў-прыхільнікаў актыўнай жыццёвай пазіцыі і носьбітаў мяшчанскай псіхалогіі; выявіць імкненне аўтара паказаць галоўнага героя ва ўзаемаадносінах з разнастайнымі людзьмі; вылучыць станоўчыя рысы Лабановіча як прадстаўніка перадавой часткі беларускай інтэлігенцыі;<br>удасканальваць навыкі супастаўлення, параўнальнай характарыстыкі герояў, падбору неабходных цытат-аргументаў; развіваць уменне аналізаваць учынкі героя, бачыць матывацыю паводзін;<br>вучыць размяжоўваць сапраўдныя і ўяўныя каштоўнасці | Дачытаць аповесць «У палескай глушы». Звярнуць увагу на адносіны Лабановіча і Ядвісі |
| 47 | Якуб Колас. Аповесць «У палескай глушы». Лабановіч і Ядвіся | Засяродзіць увагу на маральна-этычных, філасофска-эстэтычных пошуках галоўнага героя; раскрыць асобу галоўнага героя ў адносінах з Ядвісяй; паказаць хараство пачуццяў герояў, душэўныя ваганні і супярэчнасці, прааналізаваць прычыны расставання герояў; зрабіць падагульненні па вывучаных творах Я. Коласа;<br>удасканальваць навыкі заглыблення ў змест мастацкага твора; развіваць уважлівасць да аўтарскіх характарыстык і ацэнак, навыкі дыялагічнага і маналагічнага маўлення;<br>спрыяць выхаванню культуры інтымных пачуццяў падлеткаў | Прадумаць адказы на абагульняючыя пытанні па творчасці Я. Коласа, прапанаваныя настаўнікам |
| 48 | Максім Багдановіч. Жыццёвы і творчы шлях | Правесці тэматычны кантроль па творчасці Я. Коласа; шляхам стварэння адпаведнай эмацыянальнай атмасферы прыгадаць вядомыя творы, асэнсаваць жыццёвы і творчы шлях М. Багдановіча, падвесці да разумення выбітнасці асобы паэта, акрэсліць шматграннасць яго | Прачытаць вершы «Мяжы», «Санет» («Паміж пяскоў Егіпецкай зямлі...») |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| | | асобы; пазнаёміць са зборнікам «Вянок»; прааналізаваць верш «Песняру», падвесці да разумення эстэтычнага крэда паэта;<br>развіваць эмацыянальную сферу вучняў; узбагачаць лексічны запас; пашыраць культурны і літаратурны кругагляд;<br>выхоўваць пачуццё суперажывання, мастацка-эстэтычныя каштоўнасныя арыентацыі | |
| 49 | Максім Багдановіч. Вобраз Радзімы ў лірыцы паэта | Далучаць вучняў да прыгажосці паэтычнага сло-[redacted] М. Багдановіча; засяродзіць увагу на грамадзянскай лірыцы, адметнасці формы выяўлення грамадзянскай пазіцыі («Санет»), раскрыць багацце выяўленчай палітры вершаў;<br>удасканальваць уменні і навыкі аналізу лірычных твораў, выразнага чытання; развіваць культуру маўлення;<br>ствараць умовы для выхавання чуйнасці да прыгажосці мастацкага слова | Прачытаць вершы «Летапісец», «Плакала лета, зямлю пакідаючы...», «Маладыя гады», «Я хацеў бы спаткацца з Вамі на вуліцы...», «Жывеш не вечна, чалавек...» |
| 50 | Максім Багдановіч. Філасофская лірыка. Багацце духоўнага свету лірычнага героя | Прааналізаваць філасофскія вершы М. Багдановіча, засяродзіўшы ўвагу на асэнсаванні паэтам гісторыка-культурнай спадчыны («Летапісец»); дапамагчы ўбачыць багацце духоўнага свету лірычнага героя, скіраванасць да *агульначалавечай* праблематыкі, пошукаў гармоніі, абвостранае адчуванне красы жыцця і мастацтва; адзначыць верш «Я хацеў бы спаткацца з Вамі на вуліцы...» як узор філасофскай лірыкі, першы верлібр у беларускай паэзіі, рытмічнае багацце і меладычнасць твораў; | Прааналізаваць вусна адзін з вершаў М. Багдановіча. Абгрунтаваць свой выбар |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| | | развіваць здольнасці эстэтычнага ўспрымання паэзіі, уменне бачыць гарманічнасць пачуццяў, перажыванняў і формы іх выяўлення ў лірычным творы;<br>выхоўваць любоў да прыгожага, эстэтычны густ | |
| 51* | Творчая работа. Напісанне водгуку на верш Максіма Багдановіча | Выпрацоўваць уменні і навыкі самастойнай працы з лірычным творам;<br>развіваць уменне суадносіць у водгуку аналіз і ўласныя пачуцці, якія выклікаў верш, будаваць кампазіцыю творчай работы;<br>развіваць літаратурна-лінгвістычную кампетэнцыю вучняў | Прачытаць баладу «Страцім-лебедзь».<br>Вывучыць на памяць верш «Санет» («Паміж пяскоў Егіпецкай зямлі...») |
| 52 | Максім Багдановіч. Балада «Страцім-лебедзь» | Правесці конкурс выразнага чытання вершаў М. Багдановіча;<br>актуалізаваць паэтычную інтэрпрэтацыю біблейскага міфа; дапамагчы асэнсаваць сімвалічны змест балады; вызначыць ролю баладнай формы; звярнуць увагу на гармонію зместу і формы ў творы, сувязь творчасці М. Багдановіча з класічнай спадчынай; паказаць значэнне асобы і творчасці паэта ў беларускай літаратуры;<br>ствараць умовы для развіцця эмацыянальнай сферы вучняў | Пазнаёміцца з вершамі А. Гаруна «Ты, мой брат, каго зваць Беларусам...», «Ідуць гады» |
| 53 | Алесь Гарун. Вершы «Ты, мой брат, каго зваць Беларусам...», «Ідуць гады» | Пазнаёміць з кароткімі звесткамі пра жыццё і творчасць А. Гаруна — сучасніка М. Багдановіча, Я. Купалы, Я. Коласа, паказаць адметнасць яго постаці ў беларускай літаратуры гэтага перыяду, раскрыць вызваленча-патрыятычныя і агульначалавечыя матывы ў творчасці;<br>падвесці вынікі года;<br>развіваць навыкі самаацэнкі сваёй працы;<br>спрыяць узбагачэнню духоўнага вопыту вучняў | Пазнаёміцца са спісам літаратуры на наступны навучальны год |

# Рэкамендаваная вучэбна-метадычная літаратура

## Беларуская мова

Тумаш, Г. В. Беларуская мова. 8 клас : рабочы сшытак / Г. В. Тумаш. – Мінск : Аверсэв, 2012.

Пішам па-беларуску. Даведнік па арфаграфіі і пунктуацыі з каментарыямі / З. І. Бадзевіч [і інш.]. – Мінск : Аверсэв, 2010, 2011.

Зборнік матэрыялаў для выпускнога экзамену па вучэбным прадмеце «Беларуская мова» за перыяд навучання і выхавання на II ступені агульнай сярэдняй адукацыі. Тэксты дыктантаў / Л. М. Гамеза [і інш.]. – Мінск : Аверсэв, 2012.

## Слоўнікі

Бардовіч, А. М. Школьны марфемны слоўнік беларускай мовы / А. М. Бардовіч [і інш.]. – Мінск : Аверсэв, 2004, 2006.

Бардовіч, А. М. Школьны словаўтваральны слоўнік беларускай мовы / А. М. Бардовіч [і інш.]. – Мінск : Аверсэв, 2006.

Кандраценя, І. У. Беларускі арфаграфічны слоўнік для школьнікаў / І. У. Кандраценя [і інш.] ; пад рэд. А. А. Лукашанца. – Мінск : Аверсэв, 2010, 2011.

Бандарэнка, Н. Д. Разам, асобна, праз злучок. Даведнік / Н. Д. Бандарэнка, І. Л. Капылаў, Т. М. Маракуліна [і інш.] ; пад рэд. А. А. Лукашанца. – Мінск : Аверсэв, 2011.

## Беларуская літаратура

Верціхоўская, В. У. Вывучэнне творчасці Ф. Скарыны ў школе / В. У. Верціхоўская, М. І. Верціхоўская. – Мінск : Аверсэв, 2006.

Грамадчанка, Т. К. Школьныя творы : кароткі змест і аналіз / Т. К. Грамадчанка. – Мінск : Аверсэв, 2010.

Бельскі, А. І. Сучасная літаратура Беларусі / А. І. Бельскі. – Мінск : Аверсэв, 2000.

Ішчанка, Г. М. Вывучэнне творчасці пісьменніка : У. Караткевіч у школе / Г. М. Ішчанка. – Мінск : Аверсэв, 2005.

Ляшук, В. Я. Вывучэнне творчасці пісьменніка : Іван Мележ у школе / В. Я. Ляшук. – Мінск : Аверсэв, 2006.

Ляшук, В. Я. Вывучэнне творчасці Янкі Брыля ў школе / В. Я. Ляшук. – Мінск : Аверсэв, 2004.

Ляшук, В. Я. Вывучэнне творчасці Максіма Багдановіча ў школе / В. Я. Ляшук. – Мінск : Аверсэв, 2008.

Ляшук, В. Я. Вывучэнне творчасці Максіма Танка ў школе / В. Я. Ляшук. – Мінск : Аверсэв, 2009.

Ляшук, В. Я. Вывучэнне творчасці Францішка Багушэвіча ў школе / В. Я. Ляшук. – Мінск : Аверсэв, 2009.

2012/2013
*навучальны год*

# Беларуская мова і літаратура

# 8-9 *класы*

## Прыкладнае каляндарна-тэматычнае планаванне

ISBN 978-985-19-0156-8

